ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№44
(2498)

31 кастрычніка 1996 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.

## УСЕБЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ СХОД



**19—20 кастрычніка 1996 года ў Мінску адбыўся Усебеларускі народны сход, скліканы па ініцыятыве Прэзідэнта А. Лукашэнкі. На ім прысутнічала амаль 5 тысяч дэлегатаў. Сярод дэлегатаў было 1 211 жанчын. Значная частка ўдзельнікаў сходу — рабочыя і калгаснікі. 720 чалавек прадстаўлялі сферу адукацыі, навукі, аховы здароўя, культуры.**

**Па прапанове Прэзідэнта высокі сход абмеркаваў Асноўныя накірункі сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1996—2000 гады, праект новай рэдакцыі Канстытуцыі і пытанні, вынесеныя кіраўніком дзяржавы на рэспубліканскі рэферэндум. З дакладам "Толькі народ мае права вырашаць свой лёс" выступіў Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка. (Раздзел з даклада "Канстытуцыйная рэформа — шлях у будучыню" і Рэзалюцыя Усебеларускага народнага сходу змешчаны на 2-й—3-й стар. "Голасу Радзімы").**

**Напярэдадні, 18 кастрычніка, адбыўся Нацыянальны кангрэс у абарону Канстытуцыі, супраць дыктатуры. У ім прынялі ўдзел каля паўтары тысячы прадстаўнікоў дэмакратычных рухаў Беларусі. У якасці гасцей прысутнічалі парламентарыі з Польшчы і ФРГ. Усе выступленні на кангрэсе былі накіраваны супраць палітыкі Прэзідэнта А. Лукашэнкі. У рэзалюцыі кангрэса зазначаецца, што "галоўнай крыніцай напружанасці ў краіне з'яўляецца Прэзідэнт Лукашэнка".**

**19 кастрычніка ў Мінску адбыўся мітынг у абарону Канстытуцыі. У ім прыняло ўдзел ад 20 да 30 тысяч чалавек не толькі са сталіцы, але прыехалі і прадстаўнікі Салігорска, Бабруйска, Барысава ды іншых гарадоў Беларусі.**

**У чаканні гэтых кастрычніцкіх дзён Мінск жыў у трывозе. Магло быць самае горшае. Але, відаць, Бог бараніў. Апазіцыйныя сілы здолелі правесці кангрэс і мітынг спакойна і цывілізавана. А сілавыя структуры, гатовыя да выканання любой задачы, — стрымаць сябе і не пераступіць небяспечную мяжу.**

**НА ЗДЫМКАХ: Палац спорту. Усебеларускі народны сход (уверсе); плошча Парыжскай камуны. Мітынг апазіцыі ў абарону Канстытуцыі.**

**Фота БелТА і Віктара СТАВЕРА.**



### *ГУТАРКА З ВАНДРОЎКІ Ў КРАІНУ ГЕЛЬВЕЦЫЮ*

## РАЛЛЯ ПАД СОНЕЧНЫМІ ПРОМНЯМІ

Назва Швейцарыі на розных мовах гучыць пarознаму: па-нямецку Schweiz, па-французску Suisse, па-ангельску Switzerland, па-лацінску Helvetia. У гэтай краіне, размешчанай амаль у цэнтры Еўропы, мне давялося правесці 12 цудоўных дзён на самым пачатку сёлетняй восені.

Ідэя напісаць белетрызаваныя нататкі ўзнікла аднačасова з пачаткам падрыхтоўкі да падарожжа і паступова пачала атрымліваць сваё ўвасабленне ў кароценькіх запісах на тых шматках паперы, што траплялісяпад руку. Напаўпрыватны характар гэтых занатовак пазней дазволіў аб'яднаць іх гэткім жа напаўпрыватным словам "гутарка", што да ягонай сутнасці амаль забытага сёння жанру беларускай літаратуры, магчыма, мае толькі ўскоснае дачыненне.

Маё знаёмства са Швейцарыяй пачалося з цюрыхскага аэрапорта, і таму першыя ўражанні — менавіта ад гэтага горада.

* * *

Сабор Гросмюнстэр у Цюрыху, заснаваны паводле падання яшчэ ў IX стагоддзі, — маці алеманскае Рэфармацыі. Менавіта тут прамаўляў свае казанні знакаміты Ульрых Цвінглі, пра што сведчаць бронзавыя барэльефы дзвярэй уваходнага партала, шматлікія партрэты рэфарматара на каляровых паштоўках, якія з ахвотай набываюць турысты, ды, зрэшты, само аскетычнае ўнутранае ўбранства бажніцы. Звонку ля паўночнай сцяны храма — плошча Цвінгліпляц, дзе можна ўбачыць помнік Генрыху Булінгеру, пераемніку і прадаўжальніку справы пераўтварэння хрысціянскае царквы.

Безумоўнай адметнасцю сабора з'яўляецца ягоная крыпта, самая вялікая ў Швейцарыі, змураваная яшчэ ў XII стагоддзі. У старадаўніх крыптах усяго свету пахне, напэўна, заўсёды аднолькава: цвіллю, вільгаццю і прамінулымі стагоддзямі. Не апрацаванае кандыцыянерамі паветра крыпты — гэткая ж самая рэліквія, як і рэшткі рэнесансавага роспісу на сценах, з'едзеныя часам вапняковыя структуры скляпенняў, зашмальцаваныя падэшвамі мільёнаў ног надпісы пахавальных пліт. Тут жа знаходзіцца велічная мураваная фігура Карла Вялікага, скапіраваная ў XV стагоддзі з больш ранняга арыгінала. У фігуры адбітыя ногі, з-за чаго найзнакаміцейшаму з Каралінгаў сядзець нязручна, і збоку ўся ягоная постаць выглядае не больш устойліва, чым яйка, пастаўленае вертыкальна. Аднак турыстам, якія забягаюць сюды звычайна ўсяго на хвіліну, ніякая

(Працяг на 6-й стар.).

### БУДЗЬМА РАЗАМ І НАДАЛЕЙ

**Шаноўныя чытачы!**

**Распачалася падпісная кампанія на 1997 год.**

**Падпішыцеся на "Голас Радзімы", і вы будзеце ў курсе падзей, што адбываюцца ў Беларусі, даведаецеся пра жыццё беларусаў за мяжой, адкрыеце для сябе новыя імёны, пазнаёміцеся з навінамі культуры.**

**Спяшайцеся: падпіска доўжыцца да 30 лістапада.**

**Кошт падпіскі:**
**на 1 месяц — 6 тысяч рублёў**
**на 3 месяцы — 18 тысяч рублёў**
**на 6 месяцаў — 36 тысяч рублёў.**

# КАНСТЫТУЦЫЙНАЯ РЭФОРМА — ШЛЯХ У БУДУЧЫНЮ

## РАЗДЗЕЛ З ДАКЛАДА ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ А. ЛУКАШЭНКІ НА УСЕБЕЛАРУСКІМ НАРОДНЫМ СХОДЗЕ

Паважаныя таварышы!

Як кіраўнік дзяржавы, я не павінен і не маю намеру ачарняць дзеючую Канстытуцыю. Але не магу пагадзіцца і з тымі, хто лічыць яе дасканалым прававым актам, які не патрабуе паляпшэння.

Будзем аб'ектыўнымі: Канстытуцыя, прынятая 15 сакавіка 1994 года, для свайго часу была несумненным крокам наперад. Яна паслужыла прававой асновай для пачатку фарміравання шматукладнай эканомікі, развіцця дэмакратычных інстытутаў і забеспячэння правоў і свабод чалавека.

У цэлым Канстытуцыя даказала сваю жыццяздольнасць, і таму мы не ставім пытання аб прыняцці новага Асноўнага Закона. І Дзень Канстынуцыі — 15 сакавіка застанецца ранейшым, паколькі размова ідзе толькі аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Асноўны Закон.

Прапануемыя змяненні неабходны таму, што два гады жыцця і работы па Канстынуцыі выявілі ў ёй шэраг хібаў, якія тояць у сабе небяспечныя вынікі. Складальнікі Канстытуцыі аб'ектыўна не маглі гэтага прадбачыць хоць бы таму, што ў краіне да гэтага не было Прэзідэнта і пытанне аб падзеле уладаў проста не стаяла.

Сёння ўжо відавочна, што захаванне без змяненняў існуючага варыянта Асноўнага Закона ці прыняцце прапановы вярхушкі парламента і камуністаў аб скасаванні інстытута прэзідэнцтва — гэта прамы шлях да хаосу, разрабавання народнага набытку і па сутнасці здача краіны ў рукі палітычных авантурыстаў.

Асабліва востра адчуваецца недасканаласць дзеючага Асноўнага Закона ў дзвюх галінах: забеспячэння правоў чалавека і ўзаемадзеяння галін улады.

У Канстытуцыі наша дзяржава вызначаецца як сацыяльная. Але заканадаўцы не прадугледзелі галоўнага — прававога механізма сацыяльнай абароны чалавека. Не выпадкова, напэўна, інтарэсы канкрэтнай асобы ў нас усё часцей пачалі адыходзіць на другі план у заканатворчым працэсе.

Па Канстытуцыі фармальна роўнымі правамі карыстаюцца ўсе людзі. А па вялікаму рахунку ў поўнай меры іх выкарыстоўвае толькі нязначная частка грамадзян, якія паспелі ў наш смутны час рознымі шляхамі, не заўсёды сумленнымі, выкарыстаць прадастаўленыя заканадаўцамі магчымасці.

Мы ўключаем у Канстытуцыю важнейшае палажэнне аб праве працоўных прымаць удзел у кіраванні вытворчасцю і размеркаванні прыбытку. Яно стане бар'ерам на шляху незаконнага ўзбагачэння адных за кошт другіх, а таксама інструментам, з дапамогай якога можна будзе ліквідаваць крыніцы такога незаконнага ўзбагачэння.

Выключна важнай з'яўляецца папраўка да артыкула 42 Канстытуцыі, дзе гаворыцца, што заработная плата павінна быць не ніжэйшая за ўзровень, які забяспечвае работніку і яго сям'і дастойнае існаванне.

Дзеючая Канстытуцыя не прадугледжвае права на атрыманне жылля бясплатна ці па даступнай цане. Як вядома, гэта права было важнейшай заваёвай савецкага грамадства, і мы не маем намеру ад яго адмаўляцца.

Паўстае пытанне: з кім раіліся дэпутаты Вярхоўнага Савета, якія прымалі Канстытуцыю ў 1994 годзе, ліквідуючы яго?

Прэзідэнт прыняў ужо 5 указаў, якія аднаўляюць гэта права. Але трэба замацаваць яго ў Канстытуцыі, пакуль Канстытуцыйны суд не адмяніў і гэтыя ўказы.

Няма ў нашай цяперашняй Канстытуцыі і нормаў аб маладзёжнай палітыцы, хоць яна з'яўляецца важнай састаўной часткай агульнадзяржаўнай палітыкі. Таму мы прапануем замацаваць у Канстытуцыі прававыя і эканамічныя гарантыі духоўнага і маральнага развіцця моладзі, умовы для яе паўнацэннага ўдзелу ў палітычным, сацыяльна-эканамічным і культурным будаўніцтве краіны, гарантаванасць працаўладкавання.

Другая група прапаноў па змяненню і дапаўненню Канстытуцыі датычыць больш дакладнага вызначэння правоў і абавязкаў выканаўчай, заканадаўчай і судовай галін улады.

Зладжанай работы Прэзідэнта, Вярхоўнага Савета і Канстытуцыйнага суда не атрымалася. Не па віне Прэзідэнта! Становішча, калі Прэзідэнт адказвае за стан спраў у краіне і займаецца вырашэннем практычных праблем, а дэпутаты і канстытуцыйныя суддзі робяць сваім асноўным заняткам адчужэнне Прэзідэнта ад улады, не можа працягвацца бясконца.

Я бачу тут толькі адзін шлях — канстытуцыйная рэформа, прывядзенне ў парадак палітычнай сістэмы і прыняцце прафесіянальным парламентам пакета неабходных законаў.

Але менавіта гэта перспектыва — правядзенне канстытуцыйнай рэформы і навядзенне парадку — не задавальняе партыйных дзеячаў розных масцей.

У гэтыя дні многа гаворыцца аб згодзе і дасягненні кампрамісу паміж асноўнымі галінамі ўлады. Пытанне гэта ў сераду я абмяркоўваў і з Барысам Мікалаевічам Ельцыным. (Вы ж ведаеце, што мае апаненты, уключаючы і тых, хто люта ненавідзіць рускіх, спрабуюць разыграць расійскую карту для націску на мяне).

Я больш чым хто-небудзь іншы зацікаўлены ў згодзе і грамадзянскім міры. Без іх немагчыма вырашыць ніводнай эканамічнай ці сацыяльнай праблемы.

Вы ведаеце, я прыняў практычна ўсе прапановы 110 дэпутатаў па змяненню тэксту Канстытуцыі. У адказ атрымаў толькі паток абразаў і зневажальныя выкрыкі паноў клімавых, багданкевічаў, шушкевічаў. У чым жа справа?

А справа ў тым, што кіраўніцтву Вярхоўнага Савета кампраміс не патрэбны.

Разгортваецца цынічная кампанія запалохвання. Шалёнаму націску падвяргаюцца пракуратура і дзяржаўныя служачыя, якія добрасумленна выконваюць свой абавязак. У адрас дэпутатаў, якія працівяцца гэтай авантурнай лініі, чуюцца адкрытыя пагрозы расправы. Кіраўніцтва Вярхоўнага Савета, якое на словах выступае за дэмакратыю, пайшло на небывалы крок — пазбавіла акрэдытацыі нацыянальную тэлерадыёкампанію. За што? За тое, што яны расказалі аб празмерных ільготах, якія хацелі назначыць сабе дэпутаты.

Глядзіце, што яны зрабілі з ініцыятывай кіраўніка дзяржавы: замест таго, каб вынесці на суд народа прапануемыя мной папраўкі да Канстытуцыі і пытанні, дату рэферэндуму па прапанове Прэзідэнта яны ў парушэнне дзеючай Канстытуцыі не назначылі, мае пытанні ўпісалі сярод сваіх і прапанавалі яшчэ адну Канстытуцыю. Гэта парушэнне Канстытуцыі і спроба заблакіраваць прапановы Прэзідэнта.

Гэта вытанчаная форма процідзеяння маім канстытуцыйным ініцыятывам.

Мяркуйце самі, ці можна такімі метадамі дасягнуць кампрамісу? Не. Гэта шлях канфрантацыі.

Як кіраўнік дзяржавы, я павінен быць вышэй за асабістыя крыўды. Хоць у любой нармальнай краіне зневажанне Прэзідэнта — гэта злачынства, якое караецца законам. Ды і чыста па-чалавечы, гэты паклёп нялёгка пераносіць. Але ж дзяржаўныя інтарэсы вышэй за ўсё! Таму я і цяпер гатовы да кампрамісу на прынцыповай аснове, але не ў выніку торгу з палітычнымі экстрэмістамі.

Я на зусім законнай падставе патрабаваў: прызначце прапанаваны Прэзідэнтам рэферэндум на 7 лістапада.

І чаго толькі ні прыдумалі мае апаненты, спрабуючы растлумачыць, чаму Прэзідэнт настойвае на правядзенні рэферэндуму менавіта ў гэты дзень! Хоць тлумачэнне тут самае простае: спраў у дзяржаве вельмі многа. І кіраўніцтву краіны, і прадпрыемствам, і простым працаўнікам трэба рыхтавацца да зімы. Таму і трэба правесці рэферэндум як мага хутчэй, каб зняць з плеч улады і народа гэты груз, цалкам сканцэнтравацца на эканоміцы.

Не, зноў і зноў узнімаецца пытанне, што Прэзідэнт баіцца праводзіць рэферэндум 24 лістапада, таму што за гэтыя два тыдні ў рэспубліцы адбудзецца эканамічная катастрофа! Запэўніваю вас: не адбудзецца!

Дзеля захавання міру ў грамадстве я прыняў рашэнне згадзіцца на правядзенне рэферэндуму 24 лістапада. Шчыра вам скажу, з болем душэўным згадзіўся, таму што ведаю, колькі народнай гаспадарцы, а ў канчатковым выніку вам, народу, будуць каштаваць гэтыя палітычныя гульні парламенцкіх "дэмакратаў".

Ведаю, народ даручыў вам падтрымаць прапанаваную Прэзідэнтам дату — 7 лістапада. Прашу вас, давайце не настойваць на гэтым. Давайце чарговы раз пойдзем на кампраміс. Давайце прагаласуем на рэферэндуме так, каб гульні палітычных інтрыганаў аказаліся марнымі!

Каб зразумець, чаму так цяжка ідзе станаўленне прэзідэнцкай улады, трэба ўспомніць, як у нас гэты інстытут уводзіўся.

Да 1994 года Беларусь заставалася адзінай рэспублікай былога Савецкага Саюза, дзе не было інстытута прэзідэнцтва. Такое становішча цалкам задавальняла некалькі вельмі ўплывовых груп.

Першая група — Вярхоўны Савет XII склікання, які адабраў у кампартыі манаполію на ўладу (не толькі заканадаўчую, але і выканаўчую) і не хацеў яе страчваць. Дэпутаты, ні за што не адказваючы, вельмі актыўным чынам уварваліся ў сферу паўнамоцтваў выканаўчай улады.

Другая група — гэта чыноўнікі ўсіх узроняў, якіх цалкам задавальняла адсутнасць моцнай вышэйшай палітычнай улады. Яны маглі без усякага апасення займацца тым, чым займацца не павінны.

Трэцяя група — арганізаваная злачыннасць, злодзеі і жулікі ўсіх масцей, якія лавілі рыбу ў каламутнай вадзе безуладдзя.

Не сакрэт, што ўсе буйныя багацці былі нажыты менавіта ў гэты час усёдазволенасці. А сёння ўладальнікі гэтых багаццяў прэтэндуюць на тое, каб стаць поўнымі гаспадарамі Беларусі. Вядома, ім народны Прэзідэнт не патрэбны, ды і народ патрэбен толькі як рабочая сіла.

Настаў час дакладна вызначыць функцыі кожнай галіны ўлады, прывесці ў адпаведнасць іх правы і адказнасць.

Зыходзячы з напрацаванага вопыту, прапануецца ўдакладніць шэраг палажэнняў Канстытуцыі, якія адносяцца да выканаўчай галіны ўлады.

Практыка паказала, што функцыі кіраўніка дзяржавы і кіраўніка выканаўчай улады вельмі розныя.

Таму кіраўніцтва выканаўчай улады прапануецца перадаць Кабінету Міністраў. У выніку ён ператворыцца ў моцны інстытут дзяржаўнай улады, якая мае права заканадаўчай ініцыятывы. Адначасова павысіцца яго адказнасць перад парламентам.

У сваю чаргу Прэзідэнт атрымлівае паўнамоцтвы кіраўніка дзяржавы і толькі. У адпаведнасці з існуючай міжнароднай канстытуцыйнай практыкай ён зможа распускаць парламент, як і парламент адхіляць яго ад улады, прымаць рашэнне аб адстаўцы ўрада, назначаць чарговыя і нечарговыя выбары ў парламент і мясцовыя органы ўлады, удзельнічаць на парытэтнай аснове ў фарміраванні органаў канстытуцыйнага кантролю.

Менавіта гэтыя прапановы па ўдакладненню прэзідэнцкіх паўнамоцтваў падвергліся асабліва шалёным атакам з боку шэрага дэпутатаў Вярхоўнага Савета.

Былі таксама інспіраваны варожыя публікацыі ў нашым і замежным друку, у якіх Лукашэнку паспелі аб'явіць дыктатарам, узурпатарам улады і г. д.

Але чаму такія папрокі не робяцца ў адрас прэзідэнтаў іншых дэмакратычных краін, якія ўжо валодаюць такімі паўнамоцтвамі?

Упэўнены: атакі на мяне з боку многіх дэпутатаў выкліканы іх імкненнем абараніць карпаратыўныя, а не агульнанародныя інтарэсы. Яны хочуць, каб Вярхоўны Савет меў права ўмешвацца ва ўсё і ў той жа час фактычна ні за што не адказваць.

Чым іншым можна растлумачыць тое, што за час работы Вярхоўнага Савета гэтага склікання не было прынята ніводнага фундаментальнага закона, які б істотным чынам дапаўняў ужо напрацаваную заканадаўчую базу рэформаў? А кожныя ж дзесяць дзён работы Вярхоўнага Савета абыходзяцца дзяржаве ў мільярд рублёў.

Пасля парад з самімі дэпутатамі, з вучонымі-юрыстамі, з міжнароднымі экспертамі я ўношу прапанову аб стварэнні прафесіянальнага парламента. Немагчыма адначасова быць дырэктарам прадпрыемства і членам Вярхоўнага Савета, старшынёй калгаса і старшынёй парламенцкай камісіі. Кожны з гэтых відаў дзейнасці патрабуе ад чалавека асаблівай прафесіянальнай кваліфікацыі і поўнай аддачы.

У Канстытуцыю ўносіцца палажэнне аб утварэнні, як і ў большасці дэмакратычных краін свету, двухпалатнага парламента.

Двухпалатны парламент з'яўляецца заканатворчым органам, у якім адна з палат рыхтуе і прымае законы, другая — выконвае экспертныя функцыі, вырашае кадравыя пытанні ў межах сваёй кампетэнцыі і прадстаўляе ў парламенце інтарэсы рэгіёнаў. Такая структура вышэйшых прадстаўнічых органаў уласціва амаль усім без выключэння федэратыўным дзяржавам свету і значнай колькасці унітарных, якой з'яўляецца наша Беларусь. Практычна паўсюль выбранне палаты прадстаўнікоў здзяйсняецца непасрэдна выбаршчыкамі. Сенат жа, як орган тэрытарыяльнага прадстаўніцтва, фарміруецца па змешанаму прынцыпу, у тым ліку і з удзелам кіраўніка дзяржавы.

У верхнюю палату павінны ўвайсці самыя вопытныя і разумныя прадстаўнікі розных катэгорый насельніцтва.

Улічваючы тое, што прынцыпова змяняецца парадак работы і характар паўнамоцтваў абедзвюх палат, аб'ектыўна апраўдана і новая назва парламента — Нацыянальны сход. У той жа час я не настойваю менавіта на такой назве парламента і яго палат. Давайце параімся і разам прымем рашэнне.

Заявы аб тым, што функцыі парламента абмяжоўваюцца, не адпавядаюць рэчаіснасці.

Наадварот. Нацыянальны сход атрымлівае больш шырокія магчымасці для прыняцця законаў, якія вызначаюць стратэгію ўнутранай і знешняй палітыкі і нацыянальнай бяспекі краіны, рэалізацыі канстытуцыйных правоў і свабод грамадзян.

Настаў час перагледзець і статус Канстытуцыйнага суда. Чаго граху таіць, ён у нас часам нагадвае кошку, якая гуляе сама па сабе. Многія з яго рашэнняў натхняліся ўстарэлымі законамі, якія не адпавядаюць самой Канстытуцыі.

Канстытуцыйныя суддзі, выбраныя не ўсенародна, а толькі Вярхоўным Саветам, маюць большыя прэрагатывы, чым кіраўнік дзяржавы. Практычна па кожнаму прыватнаму выпадку яны ствараюць беспрэцэдэнтную юрыдычную сітуацыю, пагражаючы адхіленнем ад улады Прэзідэнту, выбранаму ўсім народам.

Балючай праблемай стала вялікая колькасць кантралюючых органаў. Многія кіраўнікі скардзяцца, што іх замучылі праверкі: не паспее закончыць праверку адзін орган, як пачынае другі, прычым часта па тых жа самых пытаннях.

Таму замест Службы кантролю Прэзідэнта і Кантрольнай палаты, якія дзейнічаюць цяпер, прапаноўваецца стварыць адзіны камітэт дзяржаўнага кантролю. Ён будзе ажыццяўляць кантроль не толькі за выкананнем дзяржаўнага бюджэту, але і актаў парламента, Прэзідэнта і іншых дзяржаўных органаў, праводзіць у жыццё адзіную дзяржаўную палітыку ў сферы кантролю.

Паважаныя дэлегаты!

Праект змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, прапанаваны на ваш разгляд, падрыхтаваны з улікам заўваг і прапаноў, якія паступілі ў ходзе ўсенароднага абмеркавання. Як вы ведаеце, для абагульнення гэтых заўваг і прапаноў з ліку буйных вучоных-юрыстаў і спецыялістаў-практыкаў, прадстаўнікоў заканадаўчай і выканаўчай улады распараджэннем Прэзідэнта была створана спецыяльная камісія.

Яна разгледзела сотні прапаноў грамадзян, практычна ўсіх міністэрстваў і іншых цэнтральных органаў кіравання, дэпутатаў і камісій Вярхоўнага Савета, выканаўчых камітэтаў, грамадскіх аб'яднанняў і рэлігійных арганізацый, Вярхоўнага і Вышэйшага гаспадарчага судоў, прафсаюзаў, ветэранскіх арганізацый і іншых зацікаўленых органаў і арганізацый, а таксама прыняла пад увагу меркаванні замежных экспертаў.

Змяненні і дапаўненні, якія былі ўлічаны камісіяй і ўхвалены Прэзідэнтам, перш за ўсё звязаны з пашырэннем прававых гарантый асобы.

Гэта датычыцца сацыяльна-працоўнай сферы, дзе замацоўваецца прынцып сацыяльнага партнёрства органаў дзяржаўнага кіравання, аб'яднанняў наймальнікаў і прафсаюзаў, а таксама гарантый раўнапраўя жанчын і мужчын ва ўсіх сферах грамадскага жыцця.

Мы аднавілі неабгрунтавана выкінутае з былой Канстытуцыі палажэнне, якое абавязвае дзяржаву клапаціцца аб ветэранах вайны і працы.

У мэтах абароны працоўных зберажэнняў простых людзей прадугледжваецца абавязак дзяржавы ствараць прававыя гарантыі для вяртання ўкладаў грамадзян.

Канстытуцыйна замацоўваецца абавязак дзяржавы засцерагаць нашых людзей, асабліва моладзь, ад разбуральнага ўздзеяння дэструктыўных сектаў, якія ў апошні час актывізуюць спробы пранікнення ў рэспубліку. Адначасова ўстанаўліваецца адказнасць дзяржавы за захаванне духоўнай спадчыны, а духоўныя каштоўнасці аднесены да нацыянальных.

Значная колькасць улічаных камісіяй паправак звязана з рэгуляваннем узаемаадносінаў паміж органамі дзяржаўнай улады.

Я прыняў прапановы дэпутатаў, якія датычыліся, у прыватнасці, колькасці галасоў дэпутатаў і сенатараў, неабходных для ўнясення прапаноў аб назначэнні рэферэндуму; парадку прызначэння шэрага вышэйшых службовых асоб у дзяржаве; абмежавання правоў Прэзідэнта прызначаць сенатараў; зніжэння планкі колькасці галасоў дэпутатаў для прыняцця рашэння парламентам.

Пашыраны пералік пытанняў, па якіх Прэзідэнту не могуць быць дэлегаваны парламентам паўнамоцтвы на выданне дэкрэтаў.

Выключана палажэнне аб тым, што былыя прэзідэнты з'яўляюцца пажыццёвымі сенатарамі.

З задавальненнем хачу адзначыць, што прапануемыя папраўкі зробяць нашу Канстытуцыю больш дэмакратычнай, значна замацуюць прававыя гарантыі грамадзян, пазіцыі заканадаўчай і судовай галін улады.

Скажыце, дзе тут узурпацыя ўлады ці таталітарная дзяржава? Такое магло прыйсці ў галаву толькі таму, хто сам хацеў бы стаць дыктатарам. Я не магу быць дыктатарам. Гэта немагчыма на Беларусі. Наш народ не прымае дыктатуры.

На самай справе гэта нармальная канстытуцыйная практыка ўдасканалення Асноўнага Закона дзяржавы. Гэтым шляхам ідуць і Расія, і Казахстан, і Украіна. Сёння ўжо бачна, што крокі па ўдасканаленню канстытуцый, зробленыя ў гэтых краінах, былі правільнымі, садзейнічалі стабілізацыі сітуацыі ў грамадстве.

Мы ж у дадатак ідзем больш дэмакратычным, цывілізаваным шляхам — шляхам рэферэндуму.

З задавальненнем мушу сказаць, што праект змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю па сутнасці стаў вынікам калектыўнай працы нашых грамадзян. Хачу падзякаваць усім грамадзянам і спецыялістам, якія прынялі ўдзел у абмеркаванні. Дапрацаваны праект я і выношу на ваша абмеркаванне.

# РЭЗАЛЮЦЫЯ
## УСЕБЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА СХОДУ

Мы, удзельнікі Усебеларускага народнага сходу, усведамляючы велізарную адказнасць за лёс сваёй краіны, звяртаемся да кожнага грамадзяніна, да ўсяго беларускага народа, да органаў дзяржаўнай улады, палітычных партый і грамадскіх рухаў.

У нашым грамадстве вызначыліся два процілеглыя падыходы да вырашэння асноўных задач развіцця беларускай дзяржаўнасці. Адзін з іх нацэлены на стварэнне сацыяльна арыентаванай эканомікі і звязаны з далейшым развіццём дэмакратычных працэсаў і паляпшэннем дабрабыту народа, паглыбленнем інтэграцыі з Расіяй, іншымі краінамі СНД, развіццём адукацыі, навукі і культуры. Гэта — курс Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі, які адпавядае інтарэсам шырокіх народных мас.

Другі шлях, на які імкнуцца саштурхнуць наша грамадства апазіцыйныя сілы, зарыентаваны на безуладдзе, хаос, безадказнасць і вяртанне да аджыўшых метадаў кіравання. Мы адмаўляем гэты шлях, які вядзе да зніжэння матэрыяльнага і духоўнага ўзроўню жыцця людзей працы, да самавольства і абагачэння ценявых структур і, у канчатковым выніку, — да аслаблення краіны. Гэта шлях назад!

Мы падтрымліваем палітычны курс кіраўніка дзяржавы, адабраем Асноўныя напрамкі сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1996—2000 гады і перакананы, што іх рэалізацыя забяспечыць эфектыўнае развіццё эканомікі нашай краіны як асновы дабрабыту беларускага народа.

Залогам паспяховага ажыццяўлення Асноўных напрамкаў з'яўляецца палітычная стабільнасць, згода ў грамадстве, адказнасць перад народам усіх без выключэння органаў улады і грамадзян, ад дэпутата да кіраўніка дзяржавы.

У гэтай сітуацыі не могуць быць прызнаны як адпаведныя інтарэсам народа тыя дзеянні Вярхоўнага Савета, якія накіраваны на ўзмацненне канфрантацыі ў палітычным жыцці, на адмову ад пошуку шляхоў кампрамісу і дасягнення агульнанацыянальнай згоды. Адначасова мы салідарныя з тымі дэпутатамі, якія шукаюць гэтыя шляхі і прапануюць канструктыўныя рашэнні.

Стварэнню напружанасці ў грамадстве садзейнічаюць палітычныя заявы Канстытуцыйнага суда і яго кіраўніцтва, якія не адпавядаюць канстытуцыйнаму статусу гэтага органа.

Кіруючыся Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, якая вызначае народ адзінай крыніцай дзяржаўнай улады ў краіне, мы, удзельнікі Усебеларускага народнага сходу, якія прадстаўляюць мільёны грамадзян усіх рэгіёнаў рэспублікі, рашуча падтрымліваем ініцыятыву Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму і змяненні і дапаўненні ў Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, што выносяцца на яго.

Мы лічым актуальным вынясенне на рэферэндум пытання аб куплі і продажы зямлі, бо гэта пытанне ў многім прадвызначае будучыню нашай краіны.

Мы перакананы, што ў вырашэнні пытання аб адмене смяротнай кары за вельмі цяжкія злачынствы канчатковае слова павінна быць за народам.

3 ліпеня — Дзень вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў стаў сапраўды сімвалам мужнасці і стойкасці беларускага народа, які адстаяў цаной жыцця лепшых сваіх сыноў і дачок сваю незалежнасць, духоўнасць, культуру, сваю зямлю. Менавіта народ павінен вырашыць, калі адзначаць галоўнае свята Рэспублікі.

Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь па выніках усенароднага абмеркавання праекта змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь улічаны шматлікія прапановы грамадзян, працоўных калектываў, грамадскіх і дзяржаўных органаў і арганізацый рэспублікі. Прыняты асноўныя прапановы па гэтаму праекту і большасці дэпутатаў Вярхоўнага Савета.

Курс кіраўніка дзяржавы, накіраваны на дасягненне агульнанацыянальнай згоды, пацвярджаецца яго заявай аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму 24 лістапада 1996 года.

Усебеларускі народны сход у сувязі з гэтым прапануе Вярхоўнаму Савету ўнесці змяненні ў свае рашэнні аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму, назначыўшы рэферэндум у поўнай адпаведнасці з Канстытуцыяй і Законам аб народным галасаванні (рэферэндуме). Сход звяртаецца да Вярхоўнага Савета з прапановай аб зняцці з рэспубліканскага рэферэндуму пытанняў, якія ініцыіраваны часткай дэпутатаў-камуністаў і аграрыяў, уключаючы ўнесены імі праект змяненняў у Канстытуцыю, які скасоўвае пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, а значыць супярэчыць волі народа, які выбраў Прэзідэнта.

Зыходзячы з прапаноў кіраўніка дзяржавы Вярхоўнаму Савету рэкамендуецца ў тэксце праекта рашэння аб змяненнях і дапаўненнях Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, што выносіцца на рэспубліканскі рэферэндум, улічыць вынікі ўсенароднага абмеркавання гэтага праекта.

Усебеларускі народны сход прапануе Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь, Саветам дэпутатаў усіх узроўняў, Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў, цэнтральным і мясцовым органам кіравання ажыццявіць неабходныя меры па арганізацыі і правядзенню рэспубліканскага рэферэндуму.

У гэты гістарычны, лёсаносны для нашай краіны час мы заклікаем рабочых і сялян, інтэлігенцыю і ваеннаслужачых, пенсіянераў і моладзь, усіх, каму дарагі лёс Айчыны, прыняць актыўны ўдзел у рэспубліканскім рэферэндуме. Рэферэндуму быць!

Сход сцвярджае: падтрымка Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі, прыняцце прапанаваных ім змяненняў і дапаўненняў у Асноўны Закон аб'яднае беларускі народ у справе пабудовы дэмакратычнай суверэннай дзяржавы, забеспячэння працвітання нашай краіны — Радзімы цяперашняга і будучых пакаленняў грамадзян рэспублікі.

Заклікаем не толькі тых, хто падтрымлівае палітыку кіраўніка дзяржавы, але і апазіцыю аб'яднаць намаганні для дасягнення згоды ў грамадстве, для паспяховага ажыццяўлення прагрэсіўных пераўтварэнняў ва ўсіх сферах грамадскага жыцця.

Толькі сам народ мае права вырашыць свой лёс!

**Прынята ўдзельнікамі Усебеларускага народнага сходу ў г. Мінску**
20 кастрычніка 1996 года.

# САМА ГІСТОРЫЯ — У ГІМНАЗІІ № 2

На фоне многіх змен у грамадстве неяк збоку застаюцца працэсы выхавання. У школах раптоўна знікаюць музеі баявой славы. Не ствараюцца новыя — няхай сабе і літаратурныя, краязнаўчыя. Таму асабліва прыемна, што недзе яшчэ апякуюцца пытаннямі памяці. Як, прыкладам, у гімназіі № 2 беларускай сталіцы. Тут (дарэчы, мова выкладання — руская) распачата актыўная праца па стварэнню музея гісторыі адукацыі на Беларусі. Ініцыятары новага клопату — дырэктар Тамара Вечар, яе намеснік па выхаваўчай рабоце Марыя Малкіна, іх паплечнікі-настаўнікі.

Але ж арганізатары новага пачынання не зводзяць гістарычныя росшукі сваіх вучняў адно толькі да выканання ролі архіварыусаў. На 3—4 студзеня 1997 года прызначана правядзенне ў гімназіі № 2 міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Гісторыя адукацыі ў Беларусі". Мяркуецца, што падчас выступленняў, дыскусій будуць разгледжаны наступныя пытанні: рэлігійная цярпімасць і адукацыя, праблемы нацыянальнай адукацыі ў Вялікім Княстве Літоўскім, гісторыя адукацыі падчас знаходжання Беларусі ў складзе Рэчы Паспалітай, розныя сістэмы сярэдніх навучальных устаноў у XIX—XX стагоддзях, сучаснае адраджэнне гімназічна-ліцэісцкай адукацыі.

Арганізатары канферэнцыі (разам з гімназіяй № 2 сярод ініцыятараў мерапрыемства — ліцэй пры Беларускім дзяржаўным універсітэце) запрашаюць да ўдзелу перш-наперш вучняў усіх гімназій Беларусі, а таксама беларускіх навучальных устаноў з Вільні і Беластока. Напэўна ж, ініцыятыва зацікавіць і колішніх гімназістаў. Будзем спадзявацца, што і яны адгукнуцца ўспамінамі, нейкімі падказкамі. **Адрас гімназіі: г. Мінск, вул. Нікіфарава, д. 37. Тэлефон у Мінску: 260-55-87.**

Гімназія № 2 чакае, спадзяецца, што, дзякуючы канферэнцыі, будзе пракладзены трывалы масток з мінулага ў будучыню, што не згубяцца ў невядомасці колішнія цудоўныя гімназічныя традыцыі.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## НАВІНЫ КУЛЬТУРЫ



**У Мінску, у бібліятэцы імя Пушкіна, адкрылася франка-беларуская зала інфармацыі аб сучаснай Францыі. Тут будуць дзейнічаць кіёск французскай прэсы, інфармацыйны цэнтр, медыятэка і аддзел французскай мовы і адукацыі. Зала стане добрым памочнікам у вучобе і рабоце для студэнтаў, палітолагаў, журналістаў, усіх, хто цікавіцца сацыяльным, палітычным, эканамічным, культурным і навуковым жыццём Францыі.**

**Ва ўрачыстым адкрыцці франка-беларускай інфармацыйнай залы прыняў удзел Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Францыі ў Рэспубліцы Беларусь Клод Жаліф.**

**НА ЗДЫМКУ:** у час урачыстага адкрыцця франка-беларускай інфармацыйнай залы.

Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.

# АПАГАНЕНЫ ЯШЧЭ АДЗІН ХРАМ. ЦЯПЕР У ЗАСЛАЎІ

**Званіца гэтага старажытнага храма горда ўзвышалася над такім жа старажытным Заслаўем. У ноч з 19 на 20 кастрычніка праваслаўная царква ў гонар Праабражэння Гасподня была ахоплена полымем. Усю ноч змагаліся з полымем пажарныя, у паветры насіліся кавалкі чарапіцы, падалі бярвенні, а потым абвалілася званіца, аказаўся пашкоджаным 360-кілаграмовы звон. Згарэла і пашкоджана ўнутры храма шмат каштоўных абразоў, бясцэнных кніг, разбіты люстры.**

**Надпіс на сцяне храма "смерць хрысціянам" і кашчунскі відарыс перавернутага крыжа ўжо сталі матэрыялам у следчай справе. Прычыну пажару высвятляе аператыўна-следчая група.**

**Колькі нягод перажыў гэты старажытны храм за сваю 1000-гадовую гісторыю! Менавіта адсюль у землях Полацкага княства пачалося распаўсюджванне праваслаўнага хрысціянства. У княжацкай царкве, узведзенай на гэтым месцы, маліліся першыя беларускія хрысціяне — княгіня Рагнеда і яе сын Ізяслаў, які**



**даў сваё імя гораду.**

**У гады панавання атэізму пры савецкай уладзе ў храме быў склад, дзе захоўвалі гаспадарчыя прадметы. Царква выстаяла ў вайну, а ў нашы дні была разбурана сатаністамі.**

**У звароце да суайчыннікаў мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі гаворыцца: "... Мы становімся сведкамі вогненных выпрабаванняў. Але наша саборная малітва, асабістае пакаянне ўсіх і кожнага з нас перад Тварцом і Збавіцелем жыцця здольныя заступіць шляхі зла і павярнуць яго назад. Веру, што запавет, дадзены Госпадам Ісусам Хрыстом Царкве Сваёй аб тым, што "врата ада не одолеют ее", умацуюць і нас, народ Божы, і дзяржаву нашу, і ўвесь хрысціянскі свет".**

**НА ЗДЫМКУ:** спалены храм у Заслаўі.

# УНІЯЦТВА Ў ЛЁСЕ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

Асабліва клапаціліся аб арганізацыі адукацыі ва уніяцкіх кляштарах. Вось як пра гэта пісаў у адным з сваіх твораў, што выйшаў у 1617 годзе ў Вільні, архімандрыт віленскага Троіцкага манастыра Леў Крэўза: "Першая і значная выгода апошняга дзесяцігоддзя (з нечым) тая, што ў такі кароткі час (маецца на ўвазе пасля падпісання ў 1596 годзе Берасцейскай уніі. — **Л. Л.**) з ласкі божай мы маем некалькі брацій, якія ці яшчэ працягваюць сваю адукацыю, ці канчаюць курс, ці закончылі ўжо; яны вывучаюць не толькі агульнаадукацыйныя навукі, але і філасофскія, і багаслоўскія. Два гады таму назад св. айцец, папа рымскі, зрабіў гэткае вялікае спрыянне, што дваццаць два браты манахі могуць на яго кошт атрымліваць адукацыю ў розных хрысціянскіх краінах і да таго ж у самых галоўных гарадах, дзе могуць вывучаць і навукі, і знаёміцца з чужымі краямі, што для ўсякага чалавека служыць упрыгажэннем...".

Словам, уніяцкая царква паступова станавілася паўнапраўнай на Беларусі рэлігіяй, набывала ўсе рысы, што характэрныя хрысціянству. З такой з'явай нельга было не лічыцца ні праваслаўю, ні каталіцызму. Ёсць звесткі, што уніяцкую веру, дзякуючы агульнасці яе абрадаў з праваслаўнай, добраахвотна, без усялякіх ваганняў прымалі асобы, што ўцякалі з Расіі на Беларусь. Найбольш шырокія маштабы гэтая з'ява набыла ў XVIII стагоддзі. Да падобнага роду перахрышчвання уніяцкія папы вельмі прыхільна ставіліся, чым павялічвалі колькасць сваіх вернікаў. Рускай жа дзяржаве гэта зусім было не даспадобы. Пры кожным зручным выпадку яна старалася ўмешвацца ў царкоўна-рэлігійнае жыццё нашага краю. Абмяжуюся хаця б такім прыкладам, што адной з умоў пры абмеркаванні ў 1656 годзе з урадам Рэчы Пасталітай выхаду з вайны павінна была з'яўляцца яе згода на скасаванне Берасцейскай царкоўнай уніі на славянскіх землях Вялікага Княства Літоўскага. Нялёгка было тым, хто ўдзельнічаў ад Рэчы Паспалітай у перамовах, адстаяць унію, але ўсё ж яе пакінулі ў спакоі, толькі ненадоўга. На гэтую дзяржаву Масква часта напірала, калі трэба было ў чымсьці абмежаваць уніятаў. І польскім уладам даводзілася слухацца свайго грознага праціўніка. На іх дачыненне да уніяцкай царквы істотны ўплыў зрабіла падпісанне ў 1686 годзе з Расіяй "вечнага міру". У дзевятым артыкуле гэтай дамовы кароль абавязваўся не рабіць ніякага ўціску на праваслаўных вернікаў з мэтай пераводу ва уніятаў.

Адпаведна з разумным, здаровым сэнсам уніяты, што адышлі ад праваслаўя, павінны былі б вельмі добра пачуваць сябе ва ўзаемаадносінах з каталікамі, паколькі і адны і другія знаходзіліся пад вяршэнствам адной і той жа высокай духоўнай асобы — папы рымскага. І трэба сказаць, што гэта і сапраўды сям-там назіралася. Як святары суседніх між сабой уніяцкіх і каталіцкіх храмаў, так і іх вернікі глядзелі адзін на аднаго, як на братоў у Хрысце. Разам з тым часта бывала і такое, што вельмі жвавыя, сапраўдныя каталіцкія фанатыкі з ліку святароў не задавальняліся рэальным станам рэчаў і стараліся ўжо саміх уніятаў схіліць у лацінства. Праўда, шырокага размаху такая з'ява не атрымала. Нават дарэвалюцыйныя рускія гісторыкі адзначалі, што падобнага роду пераходы адбываліся "па ўгавору паноў і ксяндзоў", г. зн. без прымусу. Прычым рабілася гэта не з ласкі паноў і ксяндзоў, а па ўказанні Ватыкана. На такі крок яму даводзілася ісці ўжо ў першыя дзесяцігоддзі пасля прыняцця Берасцейскай уніі, калі ў Рым пасыпаліся скаргі уніяцкіх біскупаў, што ў шэрагу месцаў іх парафіян гвалтоўна пераводзяць у лацінян. Іншая справа, што да папераджальных указанняў папаў рымскіх не заўсёды прыслухоўваліся польскае каталіцкае духавенства і свецкая каралеўская ўлада, дый некаторыя з пасланцоў Ватыкана часам аказваліся бездапаможнымі ці мо проста не жадалі змяніць ход падзей. Але, бадай, ці не самым пераканаўчым сведчаннем, што каталіцкая Польшча не жадала ўсталявання братэрскіх сувязяў з беларускімі уніятамі, з'яўлялася адмова вярхоўнай улады Рэчы Паспалітай "уніяцкай іерархіі ў праве прадстаўляць духавенства і уніяцкае насельніцтва Беларусі ў вышэйшых органах дзяржаўнай улады".

Шкодны ўплыў каталіцызму польскага ўзору на беларускую уніяцкую царкву быў бы значна меншым, каб яна ўвесь час не знаходзілася ў стане канфрантацыі з Маскоўскай патрыярхіяй. Усялякага роду інтрыгі з боку апошняй падрывалі сілы беларускага уніяцкага духавенства, што без прамаруджвання імкнуліся выкарыстаць высокія іерархі Польскай каталіцкай царквы, якія практычна ніколі не адмаўляліся шляхам насаджэння ва уніяцкія храмы польскага ладу жыцця і мовы адарваць уніятаў Беларусі ад сваіх гістарычных каранёў, духоўнай спадчыны і мовы, вырачыся самія сябе і стаць цалкам акаталічанымі і апалячанымі. На стане уніяцкай царквы адмоўна адбіліся рашэнні Замойскага сабора 1720 года, у адпаведнасці з якімі пачалі праводзіцца рэформы з мэтай яшчэ большага набліжэння яе да каталіцтва.

Дзеля захавання сябе ад акаталічвання некаторыя уніяты часам свядома ішлі на зблізкэнне з праваслаўнымі, бо не бачылі ў іх такой небяспекі, як у лацінян. Пацвердзіць гэта можна словамі, якія аднойчы сказаў уніяцкі біскуп Шэптыцкі магілёўскаму архіепіскапу Георгію Каніскаму: "Мы за вамі яшчэ жывём, а калі каталікі вас дагрызуць, дык возьмуцца і за нас".

Большасці уніяцкіх свяшчэннікаў і вернікаў беларускай арыентацыі ніколі не падабалася імкненне каталіцкага касцёла пашырыць на іх свой уплыў. І каб у іх хапала ўласных сіл, яны вялі б цалкам незалежную ад яго палітыку. Толькі сапраўдныя здраднікі уніяцкай царквы ішлі на тыя ці іншыя формы падпарадкавання інтарэсаў сваёй паствы каталіцызму.

Словам, у вышэйшай ступені антыхрысціянскія намеры каталіцкай царквы Польшчы схіліць з цягам часу да сваёй веры ўсіх уніятаў праваліліся. Міналі не толькі дзесяцігоддзі, але і цэлыя стагоддзі, аднак колькасць уніятаў не змяншалася, а, наадварот, расла. І нават у тых уніяцкіх храмах, дзе польскасці ўдавалася трохі ўмацаваць свае пазіцыі, іх прыхаджане ніяк не атаясамлівалі сябе з палякамі. Таму памылкова глядзець на уніяцкую царкву як на сродак пераплаўкі беларусаў у палякаў, як на фактар, што садзейнічаў пераходу нашых продкаў у каталіцызм. Адмаўленню беларусаў ад сваёй нацыянальнасці садзейнічалі толькі руская праваслаўная і каталіцкая цэрквы, а не уніяцкая. Пазіцыі апошняй былі б яшчэ больш трывалымі і яшчэ выразней вызначаліся б нацыянальнымі рысамі, калі б у дзяржаўна-палітычных адносінах Вялікае Княства Літоўскае не трапіла ў такую моцную залежнасць ад прапольскіх уладаў Рэчы Паспалітай. Там, дзе толькі можна было, чыніліся самыя сур'ёзныя перашкоды беларускай справе. Шмат беларускіх душ знявечыў каталіцызм, але поўнай перамогі так і не змог атрымаць, нягледзячы на самую актыўную падмогу з боку афіцыйных улад. Таму нельга пагадзіцца з катэгарычнай заявай добрага знаўцы уніяцкага пытання А. Савіча, што "уніяцкая царква ўрэшце павінна была асімілявацца з рымскім касцёлам". Зразумела, такая тэндэнцыя назіралася, але яна не была толькі вынікам характару стасункаў гэтых дзвюх канфесій. Прычыну тут найперш трэба шукаць у самой дзяржаўнай антыбеларускай палітыцы прапольскіх колаў Рэчы Паспалітай, якія паспяхова дамагліся таго, каб вывесці беларускую мову са службовага справаводства, пазбавіць яе носьбітаў нацыянальнай асветы. Без такой мэтанакіраванай дзяржаўнай палітыкі апалячвання беларускага народа не назіралася б і акаталічвання, лацінізацыі уніятаў, зліцця іх святыняў з каталіцкім касцёлам. Да гонару уніяцкіх святароў, у іх яшчэ і ў самым канцы XVIII — пачатку XIX стагоддзяў, калі імператары Расіі Павел I і Аляксандр I далі поўную волю пальшчызне на тэрыторыі нашай Бацькаўшчыны, былі моц і нястрымнае жаданне адстойваць сваіх прыхаджанаў ад усялякага роду спробаў рымска-каталіцкага касцёла перацягнуць іх у сваю веру.

Шырока разгалінаваная на Беларусі сетка нацыянальнай уніяцкай царквы, дзякуючы высокаму аўтарытэту ў масах, была ў стане супрацьстаяць любому націску як польскай каталіцкай, так і рускай праваслаўнай цэркваў. Своеасаблівым актам супраціўлення паланізацыі трэба прызнаць пераход уніятаў у XVIII стагоддзі ў мэтах захавання беларускай мовы на лацінскі алфавіт, а не польскія літары. Вучонаму Алегу Трусаву ўдалося бачыць у архівах шэраг дакументаў тае пары, падпісаны уніяцкім мітрапалітам Фларыянам Грабніцкім і кірыліцай. Калі нават дапусціць, што за перыяд існавання уніяцкай царквы на Беларусі нейкая частка яе карэннага насельніцтва заразілася духам пальшчызны, усё-такі гэтае ліха не ідзе ні ў якае параўнанне з тым пашырэннем пальшчызны, што адбылося пасля скасавання Берасцейскай уніі. Забягаючы трохі наперад, скажу, што тады да каталіцкай царквы прымкнула каля двух мільёнаў уніятаў, якія выракліся з цягам часу і сваёй нацыянальнасці.

Усталяванню поўнай згоды паміж католікамі і уніятамі перашкаджала іх сацыяльная дыферэнцыяцыя ў грамадстве, на што ў свой час звярнуў увагу Ф. Энгельс: "Большая частка насельніцтва ўсходніх правінцый (Рэчы Паспалітай. — **Л. Л.**) была праваслаўнай веры, у той час як уласна палякі былі рымска-каталіцкага веравызнання. Значная частка гэтых грэка-католікаў у XVI стагоддзі была вымушана прызнаць вяршэнства папы, і яны сталі называцца грэка-уніятамі, але шмат хто з іх захаваў ва ўсіх адносінах вернасць сваёй колішняй праваслаўнай рэлігіі. Гэта былі галоўным чынам прыгонныя, у той час як іх высакародныя паны амаль усе былі рымска-каталіцкай веры; па нацыянальнасці гэтыя прыгонныя былі маларосамі". З апошнім, вядома, ніяк нельга пагадзіцца, бо імі былі і многія беларусы. Але ў той час, як Ф. Энгельс пісаў дадзены артыкул ("Якая справа рабочаму класу да Польшчы" — вясна 1866 года), уніяцтва захоўвалася амаль выключна толькі ў асяроддзі ўкраінскага сялянства, што і магло прывесці вучонага да такой памылкі.

Узаемаадносіны католікаў з уніятамі цікавілі і нашага знанага гісторыка Адама Кіркора. Згоды паміж імі ён не бачыў, што вынікае з наступных слоў: "Дачыненні уніяцкага духавенства да каталіцкага заўжды былі нацягнутымі, прымусовымі і не раз паказвалі затойванне зларадства. Уніяцкае духавенства як па сваёй беднасці, так яшчэ больш па неадукаванасці было ў пагарджанні. Самі базыльяне, якія карысталіся вялікай пашанай, звысоку і нават пагардліва глядзелі на сельскае уніяцтва. Нарэшце ўладыкі уніятаў ніколі не маглі забыцца, што іх пазбаўлялі сенатарскага крэсла, хаця гэта было ім урачыста паабяцана Жыгімонтам III".

Пра супярэчнасць паміж уніятамі і католікамі добра ведалі і рускія палітыкі, таму сваё ўмяшанне ў справы Польшчы абгрунтоўвалі неабходнасцю абараніць уніятаў ад яе ўціску, у якіх, на мой погляд, была пэўная магчымасць і самім адстаяць сваю канфесійную прыналежнасць. Прыкладаў адданасці ёй ведае нямала наша гісторыя. Не дзеля якога-небудзь суцяшэння, а ў імя справядлівасці хочацца сказаць, калі б польскай каталіцкай царкве нават і ўдалося ў значнай ступені ажыццявіць сваю канчатковую мэту аб схіленні уніятаў у лацінізм і, значыцца, зрабіць такіх беларусаў палякамі па самасвядомасці, усё роўна не было б аніякіх падстаў абвінавачваць беларускіх уніятаў нібыта ў слабахарактарнасці, адсутнасці волі да супраціўлення асімілятарскай палітыцы, бо на працягу некалькіх стагоддзяў ім даводзілася жыць у надзвычай цяжкіх умовах, пры якіх лягчэй страціць этнічную самасвядомасць, вырачыся роднай мовы, чым іх захаваць. Значыцца, было жывое ядро ў нашых далёкіх продкаў, толькі шкада, што за цяперашняе апошняе пяцідзесяцігоддзе яго няшчадна стачылі чарвякі і стачылі так, што беларусы ніяк не ў стане ўзняцца з каленяў на свае аслабелыя ногі.

І калі б у канцы XVIII стагоддзя не адбыліся падзеі, у выніку якіх Беларусь апынулася пад уладай Расійскай імперыі, думаецца, пазіцыі уніяцтва, нягледзячы на паланізацыю, былі б яшчэ больш трывалымі. Не выключана, што з ростам агульнай культурнасці, этнічнай самасвядомасці беларускага народа пэўная частка яго, што вызнавала каталіцкую ці праваслаўную веру, адышла б да уніяцтва, таму што толькі яно будавала набажэнства з улікам нацыянальнага, беларускага. Гістарычны ж шлях беларускага народа пайшоў у зусім іншым напрамку. Без усялякай згоды Беларусі яна была ўключана ў склад Расійскай імперыі, што карэнным чынам паўплывала на вырашэнне ўсіх найважнейшых пытанняў арганізацыі рэлігійнага жыцця, у тым ліку і мовы набажэнства.

Не заўжды ўдавалася дамагацца поўнай згоды паміж католікамі і уніятамі на ўзроўні міжасобасных кантактаў, унутры сям'і паміж яе членамі. Вядомы такі факт: слынны сын Беларусі Тадэвуш Касцюшка па волі маці быў ахрышчаны ва уніяцкай царкве і атрымаў імя Андрэй. Бацька яго, католік па веравызнанні, у гэты час адсутнічаў. Прыехаўшы дадому, ён тут жа перахрышчвае сына ў касцёле і дае яму імя Тадэвуш. Як бачым, і радавыя вернікі не ставілі знака роўнасці паміж католікамі і уніятамі, аддавалі перавагу то адной, то другой канфесіі ў залежнасці ад сваіх асабістых поглядаў.

Такім чынам, грэка-рымскай царкве ўвесь час даводзілася жыць у самых напружаных адносінах як з праваслаўнай царквой Рускай дзяржавы, так і каталіцкай — Польшчы. Належнага міру і згоды не было ва ўзаемадачыненнях уніятаў з саміімі братамі-беларусамі праваслаўнай і каталіцкай веры, хаця і жылі з імі на тэрыторыі адной і той жа дзяржавы. Затое беларускія уніяты заўсёды мелі вялікую прыхільнасць да сваіх украінскіх аднаверцаў, падтрымлівалі з імі самыя цесныя і раўнапраўныя кантакты, ішлі ахвотна на дапамогу адзін аднаму, калі да гэтага вымушалі абставіны. У якасці прыкладу можна спаслацца на ўтойванне ўкраінскіх уніятаў у кляштарным комплексе Быцені (знаходзіцца на тэрыторыі сучаснага Івацэвіцкага раёна) падчас паўстання Б. Хмяльніцкага.

Адсутнасць нармальных умоў для вядзення грэка-рымскай царквой рэлігійнай дзейнасці не стала сур'ёзнай перашкодай для распаўсюджвання ў нашым краі гэтай веры. Відаць, яна не ўспрымалася народам як штосьці далёкае і чужое. Уніяцкае духавенства мела права ганарыцца тым месцам, якое займала гэтая вера ў жыцці Вялікага Княства Літоўскага. Напярэдадні першага падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у 8 уніяцкіх епархіях Княства знаходзілася 9 337 парафій, у т. л. у мітрапаліцкай епархіі — 2 490, полацкай — 598, пінскай — 238. На гэты час у Віленскім біскупстве каталіцкае насельніцтва абслугоўвалі 491 парафіяльны касцёл (у параўнанні з XVI стагоддзем іх колькасць падвоілася) і 136 філій, у Жэмайцкім — 94 і 66, Смаленскім — 3 і 3. З праваслаўных парафій засталася толькі адна — Магілёўская (яе называлі яшчэ і "Беларускай"), у якую ўваходзілі 264 царквы. Колькасная перавага уніяцтва над каталіцызмам і праваслаўем ёсць пераканаўчае сведчанне яго жывучасці і папулярнасці сярод беларусаў.

## 5. ВЕРНАСЦЬ НАРОДНЫМ ТРАДЫЦЫЯМ. МОВА НАБАЖЭНСТВА

Практычна ўсё ж мірныя метады, а не гвалтоўнае ўкараненне уніяцтва, захаванне за ім асноўных праваслаўных абрадаў, рытуалаў, атрыбутыкі і дазволілі апошняму з цягам часу стаць **самай масавай канфесіяй** на Беларусі. Тайна задуманая каталіцкай царквой Польшчы канчатковая мэта аб паступовым перацягванні на свой бок усіх уніятаў і іх апалячванні з вельмі і вельмі вялікай цяжкасцю пераўтваралася ў жыццё нават і ў самыя апошнія дзесяцігоддзі існавання Рэчы Паспалітай, а ў большасці выпадкаў такая палітыка выявіла амаль поўную сваю бесперспектыўнасць. Пры ўсіх стараннях абсалютная большасць беларускіх уніятаў так і заставалася уніятамі, а сям-там імі станавіліся вернікі, бацькоў ці дзядоў якіх некалі ўдалося далучыць да каталіцкай паствы.

За рэлігійным жыццём у Вялікім Княстве Літоўскім вельмі пільна сачыла Руская дзяржава. Яе высокім духоўным і свецкім асобам не падабалася распаўсюджванне на беларускіх землях як каталіцтва, так і уніяцтва. Крайне адмоўнае, варожае стаўленне Маскоўскага патрыярха да уніяцтва вымушала апошняе свядома ісці на далейшае павелічэнне адрозненняў, якія яшчэ раней існавалі паміж Беларускай заходнеправаслаўнай і Рускай праваслаўнай цэрквамі. Так, уніяцкія іерархі дазволілі ў цэрквах ставіць лавы, выкарыстоўваць арган, а ў 1720 годзе перайшлі і на каталіцкую дагматыку.

**Леанід ЛЫЧ.**

Працяг.
Пачатак у №№ 39—43.

# ВЕЧАРЫНА ТРОХ ЮБІЛЕЯЎ

Гэты год стаўся юбілейным для трох знакамітых дзеячаў беларускага замежжа. Зусім нядаўна Янка Запруднік, публіцыст, навуковец, прафесар, што жыве ў Нью-Йорку, і Аляксандр Надсон, апостальскі візітатар для беларусаў свету, які жыве ў Лондане, адзначылі свой сямідзесяты год нараджэння. Для Сакрата Яновіча, пісьменніка з Беласточчыны, гэты год шасцідзесяты.

Тры зусім розныя асобы, тры розныя лёсы. Але іх заўсёды яднала моцная беларуская нацыянальная свядомасць, незалежніцкая ідэалогія, няспынная штодзённая праца на карысць іх любімай Беларусі, захавання роднай мовы, культурнай і гістарычнай спадчыны.

Падчас Другой міжнароднай канферэнцыі "Культура беларускага замежжа", якая праводзілася на пачатку кастрычніка (гл. "Г. Р.", № 42"), адбылася яшчэ і вечарына шанавання вышэйзгаданых юбіляраў. Вялікая зала Дома літаратара ледзь змясціла ўсіх жадаючых павіншаваць руплíўцаў беларускай справы. У той вечар, акрамя ўдзельнікаў канферэнцыі, прывітаць слынных суайчыннікаў прыйшлі іх сваякі, а таксама прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі. Прамаўлялі Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч, Юрась Хадыка, Лявон Баршчэўскі, Ян Матусевіч ды іншыя. На жаль, айцец Аляксандр Надсон не змог прыехаць на гэты раз у Мінск. Хочацца, аднак, спадзявацца, што цяпло і шчырасць слоў яго сяброў пераляцелі ў той вечар праз Ла-Манш і гаспадар дома на Холдэн-стрыт змог іх адчуць нават у Лондане.

Відавочна, што Ян Запруднік і Сакрат Яновіч не засталіся пасіўнымі слухачамі. Разам яны дзякавалі сваім гасцям за віншаванні, спадар Яновіч чытаў урыўкі з сваіх твораў, а спадар Запруднік, у прыватнасці, сказаў наступнае:

— Патрыятызм — гэта магутны імпульс, які не толькі дае здольнасць да працы, але і вызначае якасць. Сёння я ў гэтым пераканаы і гэтую сваю перакананасць хацеў бы перадаць вам.

Пасля ўрачыстасцей адбыўся канцэрт. Народнымі песнямі і танцамі прыйшлі прывецíць юбіляраў фальклорныя калектывы з Беларусі і Якуціі.

**Т. СЯРГЕЕВА.**



**НА ЗДЫМКУ: (злева направа) Янка ЗАПРУДНІК, Ганна СУРМАЧ, Адам МАЛЬДЗІС, Сакрат ЯНОВІЧ і Васіль БЫКАЎ.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

*ПАКУТНЫ ШЛЯХ НА ЗАХАД*

# ВЫВАЗ МІРНАГА НАСЕЛЬНІЦТВА Ў ГЕРМАНІЮ

Тэхнічны дырэктар сталеліцейных заводаў Крупа ў Эсене ў мемарандуме ад 14 сакавіка 1942 года адзначаў, што некаторыя рускія не ў сілах павярнуць вінт, настолькі яны слабыя фізічна.

Ежа складалася з вадкага бульбянога, бурачковага супу ці варанага бурачнага бацвіння, раз у тыдзень хлеб. Па сведчанні былога старшага ўрача лагераў для замежных рабочых канцэрна Крупа ў г. Эсене В. Эгера, ежа ўсходняга рабочага складала адну тысячу калорый у дзень, менш, чым мінімум для нямецкага рабочага. Скаргі прадпрымальнікаў на дрэнную работу ўсходніх рабочых, выкліканую галоднымі пайкамі, прывялі да перагляду харчовых нормаў. Загадам рэйхсміністра харчавання ад 1 кастрычніка 1942 года рацыёны для савецкіх рабочых былі павялічаны прыкладна на 10 працэнтаў і склалі для занятых на лёгкіх работах 2 283 калорыі ў дзень, на цяжкіх — 2 673, шахцёрам і на падземных работах — 3 145.

Непасільная праца, голад, антысанітарыя прыводзілі да цяжкіх захворванняў. Шырока былі распаўсюджаны туберкулёз, сыпны тыф, скурныя, сардэчныя хваробы, запаленне нырак. Чатыры пятыя ўсіх рабочых заводаў Крупа памерлі ад туберкулёзу.

Аддзяленне канцэнтрацыйнага лагера Наувелер Заксенхейм называлі "рускім лагерам". У ім у асноўным размяшчаліся савецкія грамадзяне, якія былі вывезены акупантамі для прымусовай, рабскай працы. Гэтыя адарваныя ад радзімы, ад сваіх хатніх ачагоў, асуджаныя на выміранне людзі ўтрымліваліся ў страшных умовах і гінулі непасрэдна на рабоце. Адзін са старых жыхароў сам наглядаў, як аднойчы з вагона, у якім з работы вярталіся зняволеныя, былі вынесены і адпраўлены адразу на могілкі 10 трупаў. Толькі па дакументальных даных, на могілках канцэнтрацыйнага лагера Заксенхейм пахавана: 646 рускіх, 18 палякаў, 1 кроат і 1 чалавек неўстаноўленай нацыянальнасці. У сельскім упраўленні і натарыяце гэтага мястэчка захаваліся пайменныя запісы аб пахаваных на названых могілках. Сярод іх значацца: Кулікова Зінаіда, 1942 года нараджэння, Нікіценка Іван, 1941 года нараджэння, Зарава Валянціна, 1939 года нараджэння, Сцяфанава Агафія, 1868 года нараджэння. Як відаць з запісаў, у ліку загінуўшых у Заксенхейме, як і ў іншых месцах фашысцкай Германіі, былі грамадзяне СССР розных узростаў — ад маленькіх дзяцей да старых. Прычынамі іх смерці былі голад, бесчалавечнае абыходжанне, непасільная праца да знямогі.

На поўдні Дуісбурга ёсць камень з надпісам: "На гэтым месцы ляжаць дзеці савецкіх сем'яў, якія памерлі з 1941 па 1945 год". Па сведчанні старых жыхароў горада, прычынай гібелі гэтых дзяцей быў голад. Каб прагнаць голад, яны вымушаны былі шукаць для ежы земляных чарвякоў.

Фашысты ажыццяўлялі масавы вываз цывільнага насельніцтва ў Германію, дзе яно трапляла ці на катаржныя работы, ці ў канцэнтрацыйныя лагеры. Расстрэлы, атручванне ў газавых камерах, збіванні, здзекі, страшэнныя медыцынскія доследы, непасільная праца — усё вяло да масавага знішчэння людзей. Так, з 18 мільёнаў грамадзян Еўропы, якія апынуліся ў гітлераўскіх канцэнтрацыйных лагерах, было знішчана звыш 11 мільёнаў.

Становішча людзей, вывезеных на нямецкую катаргу, было выключна бяспраўным і цяжкім. Умовы існавання і працы насільна вывезеных у Германію мала чым адрозніваліся ад рабскіх. Іх накіроўвалі на найбольш цяжкія работы, з імі жорстка абыходзіліся. Рускія, украінскія і беларускія рабочыя ў Германіі павінны былі насіць на адзенні вялікую літару "О", што значыла "Остарбайтэр" — "усходні рабочы".

У спецыяльных "Указаннях па абыходжанню з замежнымі рабочымі з цывільнага насельніцтва, якое знаходзіцца ў імперыі ад 1 кастрычніка 1941 года", распрацаваных гітлераўскімі рабаўладальнікамі, гаварылася: "Усходніх рабочых трэба ўтрымліваць у закрытых лагерах, якія яны могуць пакінуць толькі для правядзення работ, пад пастаяннай аховай вартавых ці начальніка лагера. На дробных сельскагаспадарчых прадпрыемствах ці ў аднаасобных гаспадарках, дзе дазволена скарыстанне рабочай сілы, можна змяшчаць рабочых па-за лагерам у добра зачыненым памяшканні, дзе ёсць немец-мужчына, які можа ўзяць на сябе функцыі кантролю".

Афіцыйная інструкцыя фашысцкіх улад прадугледжвала, што "ўсе рабочыя павінны атрымліваць такую ежу і такое жыллё і падвяргацца такому абыходжанню, якія давалі б магчымасць эксплуатаваць іх у самай высокай ступені пры самых мінімальных затратах".

Былы вязень Асвенціма Вольга Крайко ўспаміналa: "Наша рабочая каманда працавала за 10 кіламетраў ад лагера. Кожны дзень хворыя, галодныя, змучаныя цені, а не людзі павінны былі праходзіць па 20 кіламетраў і яшчэ ўвесь дзень працаваць. Заўсёды хацелася есці. На нашым шляху расла яблыня-дзічка. Часам удавалася падняць яшчэ зусім зялёны плод. У адзін з дзён, праходзячы каля яблынькі, мы, не згаворваючыся, кінуліся да яе. За гэта многіх з нас білі, а мяне ў пакаранне загналі ў раку, дзе, стоячы па грудзі ў вадзе, павінна была скасіць усю траву на беразе. Так прыйшлося прастаяць у халоднай вадзе ўвесь дзень. А я ў той час хварэла на малярыю. За тое, што мы з сяброўкай Таісай Іосіфаўнай Мінсуновай рашылі наведаць хворую і прынесці ёй маленькі букецік палявых кветак, шэф прымусіў нас жаць крапіву вышэй чалавечага росту".

Свабодная перапіска з роднымі забаранялася. У палажэнні аб паштовай сувязі рускіх грамадзян, вывезеных у Германію, гаварылася: "Паштовая сувязь занятых у Германіі рускіх грамадзянскіх рабочых і іх сваякоў у занятых усходніх абласцях дапускаецца. Да правядзення гэтай паштовай сувязі выдаюцца наступныя распараджэнні: 1. Кожны рускі рабочы ў Германіі можа перапісвацца два разы ў месяц. Дапускаюцца толькі паштоўкі з адказам. Адрас, напісаны лацінскімі літарамі, павінен змяшчаць у сабе месца, раён, а па магчымасці і акругу біржы працы атрымальніка ва ўсходніх абласцях, а ў паштоўцы ў адказ — дакладнае азначэнне лагера ў Германіі. Прыбываючая з Германіі пошта перадаецца праз біржы працы палявым або мясцовым камендатурам. Тыя перадаюць пошту далей раённым начальнікам з указаннем адаслаць яе звычайным шляхам праз бургамістраў атрымальнікам".

Гэты парадак адпраўкі паштовай карэспандэнцыі рускіх рабочых, вывезеных у Германію, і іх перапіскі са сваімі сваякамі не даваў магчымасці адкрыта пісаць праўду аб цяжкім жыцці ў нямецкім рабстве. Ва ўсіх выпадках нямецкія камендатуры правяралі напісанае, і, калі штонебудзь пісалася аб дрэнным становішчы ў Германіі, карэспандэнцыя па адрасу не даходзіла.

Тым не менш, насельніцтва ведала аб няшчасным лёсе тых, каго вывозілі ў нямецкае рабства. З вёскі Рэчкі Багушэўскага раёна немцы вывезлі ў Германію пятнаццаць дзяўчат.. Пры ад'ездзе яны дамовіліся з роднымі, што калі ім будзе жыць у Германіі добра, дык на сваіх пісьмах яны намалююць кветкі і, наадварот, калі жыццё будзе дрэннае, дык на пісьмах будуць намаляваны елачкі. Праз некаторы час усе сваякі атрымалі ад сваіх дачок з Германіі пісьмы, на якіх былі намаляваны елачкі. Адна дзяўчына з Багушэўскага раёна сваім сваякам прыслала з Германіі пісьмо наступнага зместу: "Жыву добра, лепш не трэба, але мая бабка ўсё ж жыве лепш. Я б жадала жыць, як яна. Магчыма я хутка паеду да яе ў госці".

У вёсцы ўсе ведалі, што бабка гэтай дзяўчыны памерла 7 год таму назад.

Былы вязень Асвенціма Вольга Крайко ўспамінала: "7 студзеня 1944 года я захварэла на тыф. У гэты час смяротнасць у жаночым лагеры Біркенау (філіял Асвенціма. — **М. Б.**) дасягнула 500 чалавек у дзень. Кожную раніцу з баракаў выносілі трупы і складвалі іх каля ўваходу ў баракі. Часам іх набіралася ад зямлі да даху. Мерцвякі абавязаны былі нараўне з жывымі прысутнічаць на праверцы.

Мяне адправілі ў рэвір (бальніцу). Там раздзелі дагала і палажылі чацвёртай на нары, якія па размерах былі крыху большыя за звычайны ложак. Пяць сутак я праваялася без прытомнасці. Ніякага лячэння, канешне, не было. 12 студзеня была самая вялікая за ўвесь час існавання лагера селекцыя (адбор жывых для спальвання ў крэматорыі). І тут я апамяталася. Падала голас. Незнаёмыя дзяўчаты выцягнулі і забралі ў барак да сябе на нары.

...Калі крэматорыі не спраўляліся з непасільнай нагрузкай, тады жывых людзей спальвалі ў ямах у лесе. Людзей распраналі дагала, і сабакі заганялі ў яму, дзе гарэлі дровы. Чалавек бег ад агню, а сабакі, дрэсіраваныя спецыяльна для гэтых мэт, зноў гналі да ямы.

Фашысты стаялі побач, курылі і смяяліся".

Пра неймаверна цяжкія ўмовы, у якіх апынуліся савецкія людзі, вывезеныя ў рабства, сведчылі шматлікія пісьма з Германіі на фронт. У забітага на савецка-германскім фронце салдата Вільгельма Бока было знойдзена пісьмо ад маці з г. Хемніц. У ім гаварылася: "...шмат рускіх жанчын і дзяўчат працуюць на фабрыках "Астра-верке". Іх прымушаюць працаваць па 14 і больш гадзін у суткі. Заработнай платы, вядома, ніякай не атрымліваюць. На работу і з работы яны ходзяць пад канвоем. Рускія так стомлены, што літаральна валяцца з ног... Ім часта пападае ад аховы нагайкамі. Паскардзіцца на пабоі і кепскую ежу яны не маюць права".

Салдату Эміну Шылінгу пісала Лота Мелер з Пуфенгаўзена 10 жніўня 1942 года: "Не так даўно тут, у Пуфенгаўзене, з'явіліся рускія. Цікавае нас чакае жыццё: у адной кішэні слоўнік, а ў другой — рэвальвер".

Тысячы савецкіх грамадзян не вытрымлівалі дзікіх умоў рабства. У лагеры была высокая смяротнасць.

Салдату 6-й роты 4-га палка 32-й нямецкай пяхотнай дывізіі Ота Тэск пісала Фрыда Пуц з Гютцэ ў Альтэнтрэпава, акруга Дземін, 30 красавіка 1942 года: "Тут у сераду зноў пахавалі двух рускіх. Іх цяпер тут на могілках пахавана ўжо пяцёра, і двое ўжо зноў пры смерці. Ды і што ім жыць, трэба было б іх усіх перабіць".

Германскі ўрад арганізаваў куплю-продажператвораных у рабоў савецкіх грамадзян. За невялікую плату кожны немец мог прыдбаць сабе рабоў. У Германіі былі ўведзены нявольніцкія рынкі. Тут, як ва ўсе часы рабаўласніцкага ладу, пакупнікі правяралі мышцы на руках і нагах савецкіх грамадзян, абменьвалі знясіленых бязлітаснай эксплуатацыяй рабоў на больш моцных.

Салдату Фрыцу Лерману яго маці з Прусіі пісала: "Мы атрымалі добрую рабочую сілу. У нас дзеўка з Беларусі. Я глядзела яе мышцы на руках і нагах. Нічога, будзе працаваць".

Унтэр-афіцэру Іосіфу Вікерту, п/п 261873, яго жонка Марыя Вікерт з Франквейлера пісала: "...Я табе яшчэ не паведамляла аб атрыманні пасланых табой 100 марак. Я тут ужо аддала іх тваёй маці, каб яна магла купіць палонных. Цяпер гэта не так дарага".

Рабочая сіла зняволеных была крайне таннай, прадастаўлялася ў распараджэнне прадпрымальнікаў амаль неабмежавана і магла эксплуатавацца да фізічнага знішчэння. Таму для "знішчэння пры дапамозе работы", як гаварылася ў фашысцкім ужытку, усё больш людзей кідалі ў канцлагеры, а адтуль на прадпрыемствы канцэрнаў, дзе яны былі асуджаны на смерць. Звычайна эсэсаўцы за штодзённую плату 4—6 марак пастаўлялі арыштаваных у большасці выпадкаў адразу на прадпрыемствы, якія часам будаваліся каля лагераў.

Старшаму яфрэйтару Францу Кнапке, п/п № 08999, пісала жонка Рут Кнапке з Грума ў Ангальце: "...Украінца ў мяне больш няма... Ён нічога не хацеў слухаць і быў страшны гультай. Цяпер ён у Герберта. Мы хацелі паглядзець, ці не падыдзе ён у больш буйной гаспадарцы, але і там ён тое ж самае. Я паведаміла аб гэтым па тэлефоне ў Бюро працы. Але калі прыйдзе новы транспарт, яны мне сказаць не маглі. Герберт пакуль яго трымае, а потым абмяняе яго..."

У руках рабаўладальнікаў савецкія грамадзяне падвяргаліся нечалавечым жорсткасцям і эксплуатацыі. Іх закрывалі на ноч у халодныя кладоўкі і хлявы. Кармілі дрэнна і мучылі непасільнай працай. З савецкіх людзей здзекаваліся, усяляк падаўляючы ў іх чалавечую годнасць.

**Мікалай БАНДАРЭНКА.**

---

**Працяг.**

**Пачатак у №№ 41 — 42.**

# РАЛЛЯ ПАД СОНЕЧНЫМІ ПРОМНЯМІ

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

небяспека не пагражае: манументальная фігура заваёўніка надзейна прымацавана двума жалезнымі крукамі за плечы да сцяны. Гэткая ж самая выява — копія, зробленая ў 1935 годзе Ота Мюнхам, — змешчана звонку, на адной з вежаў касцёла, адкуль з-пад багата дэкараванага познегатычнага балдахіна Carolus Magnus мае магчымасць назіраць за плынню ракі Лімат і парадкам ва ўсім слаўным месце Цюрыху. Гэтая фігура не мае пашкоджанняў, уласцівых арыгіналу з крыпты, аднак, дзякуючы аддаленасці ад гледача, страчвае частку сваёй велічы і цалкам абвяргае ходкае сцвярджэнне, што ўсё вялікае бачыцца толькі на адлегласці.

Карл Вялікі лічыцца заснавальнікам Гросмюнстэра. Ахвотнік да палявання, ён аднойчы праследаваў аленя ў цюрыхскіх лясах. Апынуўшыся на месцы, дзе зараз стаіць сабор, конь франкскага імператара раптам спыніўся і прыпаў на калені. Так было знойдзена месца пахавання святых Фелікса і Рэгулы, патронаў Цюрыха, замардаваных у канцы III стагоддзя, і заснаваны храм. Пра гэтыя падзеі распавядае адзін з рэльефаў вонкавых фрызаў сабора. Раманская разьба гэтых фрызаў з выявамі фантастычных птушак, жывёл, раслін, чалавечых постацяў утрымлівае ў сваёй пластыцы гэткую ж самую таямніцу, як і сілуэты старажытнарускіх храмаў ці каляровыя керамічныя пліткі ды загадкавыя знакі на цаглінах гарадзенскай Каложы.

* * *

Недалёка ад сабора Гросмюнстэр, усяго толькі праз мост цераз раку Лімат, знаходзіцца яшчэ адна цюрыхская знакамітасць — царква Фраумюнстэр, каралеўскае абацтва часоў Каралінгаў. Зараз тут знаходзяцца пяць вялікіх і адзін маленькі вітраж работы Марка Шагала. Тут заўсёды шматлюдна, сотні турыстаў з рознай ступенню зацікаўленасці і разумення творчасці мастака спраўляюць паломніцтва ў гэтую мясціну. Часцей за ўсё іх суправаджаюць гаманлівыя гіды, у шматслоўных аповядах якіх рытмічным і надзвычай спеўным на слых рэфрэнам паўтараецца неперакладальнае: "Marc Chagall... Marc Chagall..." Нават пры даволі сціплым натуральным асвятленні, якім часцяком адорвае жыхароў Цюрыха зменлівае надвор'е, вітражы ззяюць фарбамі і, здаецца, самі выпучаюць святло. Шагал рабіў іх у Рэймсе ў 1970 годзе, ужо амаль напрыканцы свайго зямнога шляху, маючы ад нараджэння 83 гады. Тым не менш галоўнае азначэнне, якое выклікаюць колеры вітражоў, — радасць і свята жыцця. Згусткі ультрамарыну на іх паходзяць, безумоўна, з Віцебска, аднак усё астатняе — тутэйшае, еўрапейскае, плён уздзеяння на творчасць Майстра не толькі культуры, але і цывілізацыі.

Перад самым ад'ездам у Швейцарыю падчас адпачынку некаторы час жыла ў колішнім невялікім мястэчку пад Віцебскам. Пайшоўшы аднойчы на шпацыр у лес, напаткала ў ім старадаўнія яўрэйскія могілкі — сотні дзве ўрослых у зямлю заімшэлых трохкутных камянёў з незразумелымі літарамі, больш падобнымі на арнамент. Могілкі моцна пазарасталі дрэвамі, па іх цяжка было прайсці з-за апалага ламачча і хмызняку. Тым не менш пад нагамі ўвесь час трапляліся бітае бутэлечнае шкло, кінутыя коркі, сінтэтычныя абгорткі ад ежы, якія да абраду памінання продкаў не маюць ніякага дачынення. Яшчэ на пачатку стагоддзя працэнт яўрэйскага насельніцтва мястэчка быў даволі істотным, цяпер жа за ўвесь час свайго знаходжання тут я не ўбачыла ніводнага семіцкага твару. Напэўна, яўрэі ў мястэчку больш не жывуць. Засталіся адны толькі козы, якія на вечаровых папасах пры набліжэнні да іх людзей пачынаюць енчыць амаль чалавечымі галасамі.

Цяжка ўсвядоміць, што цюрыхскія вітражы Шагала і камяні занядбаных мястэчковых могілак — блізкія галіны аднаго дрэва.

* * *

Кюснахт — невялікі прыемны горад у ваколіцах Цюрыха, размешчаны на ўсходнім беразе Цюрыхскага возера. Тут ёсць два касцёлы, каталіцкі і пратэстанцкі, якія ва ўнутраным убранстве мала чым адрозніваюцца адзін ад аднаго і разам аздабляюць жыццё месцічаў штодзённым меладычным перазвонам. Тут некалі жылі нямецкі пісьменнік Томас Ман і швейцарскі псіхааналітык Карл Густаў Юнг, інстытут якога дзейнічае ў гарадку да гэтага часу.

Цяпер у Кюснахце жыве знаная швейцарская беларусістка Моніка Банькоўскі-Цюліг, пра якую без ценю відавочнага ці прыхаванага панібрацтва хочацца сказаць: "Наш чалавек у Швейцарыі". Спадарыня Моніка цудоўна ведае і разумее Беларусь, яе мінулае і сучаснае жыццё, яна шчыра адкрытая на кантакты і заўсёдную дапамогу. Яе цікавасць да Беларусі грунтуецца на глыбокім досведзе інтэлігента Цэнтральнай Еўропы пра культурнае развіццё ўсходнеславянскіх народаў. Яе хвалююць падзеі, якія перажывае наша краіна зараз. Яе дом — маленькі куток Беларусі ў Швейцарыі. Тут шмат беларускіх кніжак, часопісаў, сувеніраў, лістоў ад сяброў-беларусістаў з цэлага свету, шмат зычлівасці і жадання разумець нашыя праблемы. Спадарыня Моніка працуе ў Цэнтральнай бібліятэцы Цюрыха, даследуе пытанні швейцарска-беларускіх узаемадачыненняў, а таксама з ахвотаю дапамагае ўсім, хто займаецца беларусікай — каму новымі кніжкамі, што выдаюцца ў Еўропе, каму актуальнай інфармацыяй, каму сваімі ведамі і асаблівым досведам у галіне бібліяграфіі, робячы гэта іншым разам на шкоду ўласным навуковым зацікаўленням і вольнаму часу. Яна вельмі мілы і тактоўны ў абыходжанні чалавек, і маё стаўленне да яе цалкам адметнае: толькі дзякуючы ёй удалося спраўдзіць гэтае маё цудоўнае падарожжа да Швейцарыі.



* * *

Пры добрым надвор'і з гары Йётліберг (873 метры над узроўнем мора) адкрываецца цудоўная панарама Цюрыха і практычна ўсё Цюрыхскае возера. Для зручнасці турыстаў на гары зроблены выгодныя аглядальныя пляцоўкі, і стаіць металічная вежа, па якой жадаючыя сваім ходам могуць узняцца яшчэ на некалькі дзесяткаў метраў бліжэй да неба.

Панарама Цюрыха ўражвае амаль поўнай адсутнасцю хмарачосаў, лагоднасцю і паважнасцю ўсяго места, якое шырокай плямай расцяклося па пляскатай даліне. У невялікай рэстарацыі, што размясцілася ля самай вежы, мы заказалі фруктовую салату, якую з'елі на свежым паветры разам з тамтэйшымі восамі, вялікімі ахвотніцамі да салодкага. Па свайму смаку і пышных колерах спелай восеньскай садавіны з адбіткамі сонца салата нагадвала нацюрморты Івана Хруцкага, а манументальныя краявіды пакрытых лясамі гарыстых схілаў заходняга берага Цюрыхскага возера спакушалі на маўклівую засяроджанасць і роздум пра вечнае.

"Божухна, які вялікі свет Ты стварыў!" — кажуць, гэтыя словы прамовіла нейкая швейцарская сялянка ў мінулым стагоддзі, калі абрынулася адна з гор, што акалялі яе вёску, і такім чынам адкрыўся краявід на суседнюю даліну. Гэткія ж словы неаднойчы хацелася выгукнуць і мне, сузіраючы велічную і строгую прыгажосць швейцарскай прыроды, гарманічна злучанай з жыццёвым асяродкам чалавека.

* * *

Да гарадка Майлен трэба ехаць ад Кюснахта 20 хвілін на цягніку. Са спадарыняй Банькоўскі мы выправіліся туды адмыслова для наведвання адной прыватнай галерэі, у якой захоўваецца вялікі збор графікі Марка Шагала. Як аказалася, якраз на той час галерэя была зачынена на рамонт, аднак яе ўладар — пан Гюнтэр Камацкі — ласкава дазволіў нам агледзець тое, што можна было пабачыць на знятых са сваіх месцаў і расстаўленых уздоўж сцен графічных аркушах. Убачыўшы нашае відавочнае зацікаўленне творчасцю Шагала, гаспадар прапанаваў нам для агляду выдадзеную ў Парыжы кнігу "Сем смяротных грахоў", ілюстраваную афортамі мастака, якая сталася яго дэбютам на Захадзе ў галіне кніжнай графікі. Неўзабаве нам была прапанавана таксама і кава, падчас якой высветлілася, што я прыехала з Віцебска і нечакана для сябе стала першым наведвальнікам галерэі, які прыбыў з радзімы Майстра. Далей нас чакала яшчэ большая неспадзяванка.

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**

**НА ЗДЫМКУ: скульптура Карла Вялікага на вежы сабора Гросмюнстэр у Цюрыху.**

**(Заканчэнне будзе).**

СЁЛЕТА, 10 чэрвеня, у 10-ю гадавіну з дня смерці Канстанцыі Буйло, у "Голасе Радзімы" быў змешчаны артыкул Алы Сямёнавай, скарочаны варыянт рэцэнзіі з № 5 "Полымя" на апошнюю кніжку паэтэсы "Коціцца рэха". У газеце таксама быў змешчаны сямейны даваенны фотаздымак сям'і Буйлаў.

Некалькі нумароў газеты і часопіс "Полымя" мы паслалі ў Маскву. Ад пляменніцы Канстанцыі Антонаўны Людмілы Гурынай праз некаторы час прыйшло цікавае пісьмо і бясцэнны дар. Людміла Гурына пераслала мне зборнік Янкі Купалы "Пад новым сонцам" (выданне 1936 года), падпісаны песняром: "Мілай Костцы на памяць Я. Купала Масква, 21/XII-36 г. VIII з'езд".

Некалькі слоў пра Людмілу Гурыну. Яна дачка малодшай сястры Канстанцыі Буйло Іны Антонаўны. З цёткай заўсёды была ў блізкіх адносінах. Была пры ёй і ў тую ноч, калі паэтэсы не стала. З дзяцінства Людміла захаплялася вершамі "Курганнай кветкі", нядрэнна ведала паэзію Канстанцыі Буйло, добра разумее і любіць беларускую мову, хаця ў Беларусі жыла ўсяго некалькі гадоў — пасля вайны з мужам-ваенным у Нясвіжы. Сюды ж да яе ў госці прыязджала і Канстанцыя Антонаўна. Людміла Гурына ведала Уладзіславу Францаўну Луцэвіч, памятае многіх пісьменнікаў, з якімі сустракалася ў доме сваёй славутай цёткі. Людміла і цяпер цікавіцца тым, што адбываецца на Беларусі. Атрымаўшы "Полымя", прачытала не толькі рэцэнзію А. Сямёнавай, але выказала свае думкі пра многія артыкулы часопіса. Найбольш цікавыя, на наш погляд, урыўкі з пісьма мы прапануем увазе чытачоў.

*ЗГАДВАЮЧЫ КАНСТАНЦЫЮ БУЙЛО*

# БЯСЦЭННАЯ РЭЛІКВІЯ

"Зусім нечакана атрымалі вашу бандэроль. Разгарнула газету і першым убачыла на фота свайго брацішку, потым усіх сваіх родных. Ніколі не чакала, што гэты сямейны фотаздымак можа з'явіцца ў газеце. Я ж адна засталася з іх усіх... "як колас той у полі"...

Чаму з нас васьмярых ніхто не ўсміхаўся? Я ўспомніла той летні дзень 1940 года. Мне 15 гадоў, бабульцы (маці Канстанцыі Антонаўны і Іны Антонаўны. — **Д. Ч.**/—75. Загадзя дамовіўшыся, прыехалі да цёткі, у кватэры якой жыў яе брат дзядзька Віця з жонкай. На Ціхвінскім быў прыгатаваны добры стол, а потым мы пайшлі фатаграфавацца на Новаслабодскую ў атэлье, што было побач з не існаваўшым тады метро.

Прачыталі мы артыкул Алы Сямёнавай пра Канстанцыю Буйло. Яна малайчына. Закранула глыбокае мінулае, песні, фальклор. Цікавыя лірычныя адступленні, шмат роздуму. А самае галоўнае — напісана добразычліва, з любоўю да паэзіі Буйло. Ёсць у артыкуле словы, якімі сказана ўсё: "Канстанцыя Буйло — паэт арганічны, паэт сваёй школы, свайго часу. А час гэты меў доўгі век".

Хацелася б расказаць пра сваю бабулю, маці Канстанцыі Буйло, у сувязі з некаторымі меркаваннямі пра яе Алы Сямёнавай. Мая бабуля Настасся — асоба неардынарная. Яна сапраўды на схіле гадоў стала атэісткай і прасіла: "Не стаўце мне на магіле крыж". Я нават лічу, што талент цёткі Тоні (так дамашнія звалі К. Буйло. — **Д. Ч.**/ ад маці. У іх у многім былі падобныя натуры. Бабуля прыняла савецкую ўладу адразу. Сказала, што гэта "наша ўлада, улада бедных". І ўсе цяжкасці і непаразуменні гэтай улады прыняла як належнае. Бабуля Настасся цікавілася палітыкай, ведала ўсе міжнародныя падзеі. Мы жартам называлі яе міністрам замежных спраў. Яна не магла жыць без газет і радыё, хадзіла на лекцыі. І ўсё гэта ў 80 гадоў! Паміраць не хацела. Гаварыла: "Я жыць хачу!" Пра ўсё гэта напісана ў паэме "Па траскіх гацях".

Ужо ў апошнія дні я спытала ў цёткі Тоні, ці чытала Уладзіслава Францаўна рукапіс яе паэмы. Яна адказала, што чытала. Я з цеплыёй успамінаю незабыўную цётку Уладзю. Яна гаварыла заўсёды толькі па-беларуску. І ў Маскве з цёткай Тоняй яны абедзве гаварылі толькі на роднай мове. Уладзіслава Францаўна была чалавекам з гумарам, цікава і дасціпна расказваючы пра каго-небудзь, удала яго капіравала. Я заўсёды адчувала, што яна вельмі моцны, валявы, разумны чалавек.

Я з вялікім задавальненнем прачытала ўсю газету (ці думала я, што праз 10 гадоў зноў буду трымаць яе ў руках). Прачытала я і часопіс "Полымя". Заўсёды любіла чытаць тоўстыя часопісы з канца, люблю бібліяграфію і мемуарную літаратуру. Прачытала артыкулы Дзмітрыя Бугаёва і Барыса Бур'яна. Даведалася шмат цікавага пра Астрэйку і іншых пісьменнікаў. Правільна там пішуць, што ў былыя часы людзі псавалі фатаграфіі, каб схаваць крыжы і афіцэрскія пагоны.

Марына (любімая ўнучатая пляменніца К. А. — **Д. Ч.**) расказала мне, што цётка Тоня прадчувала блізкую сваю смерць. Пасля ночы яе дзяжурства яна сказала: "Марыначка, ты мяне больш не ўбачыш". І гэтай жа ноччу яна памерла. Ні скаргаў на лёс, ні шкадавання. Мужна і спакойна прыняла яна непазбежнае.

Вялікі дзякуй вам за прысланыя матэрыялы. Нам вельмі дарага ўсё, што друкуецца пра Канстанцыю Буйло, прыемна ведаць, што Беларусь яе не забыла і, спадзяюся, не забудзе зусім.

І яшчэ я прыняла рашэнне паслаць вам кнігу Янкі Купалы з аўтографам, дзе відаць, што ў 36-м годзе ён быў у цёткі Тоні, падтрымліваў яе і зрабіў сардэчны надпіс. Гэта дакумент, які пацвярджае, што ўсё так было. Я гэту кнігу лічу рэліквіяй.

**З вялікай павагай Л. ГУРЫНА.**
Масква.

*Публікацыю падрыхтавала Дзіяна ЧАРКАСАВА.*

СЯРОД КНІГ

# ...ЗАПАЛЬВАЙЦЕ СВЕЧКУ, НАСТАЎНІК, АСВЕТНІК, ВУЧОНЫ

Барыс Кіт... Зараз яго добра ведаюць на Беларусі. Дзесяткі артыкулаў змешчаны ў самых розных выданнях. Паэты пішуць вершы, прысвечаныя суайчынніку, якога абставіны і лёс выправілі некалі ў далёкі чужы свет. Барыс Кіт на старасці гадоў вяртаецца ў Беларусь. Сваім веданнем, сваімі здабыткамі. І яшчэ тым, што разварушвае, абуджае грамадскасць. Ён, вядомы ў свеце вучоны-астранаўт, вяртаецца на Беларусь з рознага кшталту праектамі. Вось і ў гутарцы з журналісткай Веранікай Чаркасавай Барыс Кіт заўважыў: "Шукаю грошы для Беларусі, — і ўжо сур'ёзна дадаў: — У мяне ёсць сябар, вельмі добры адвакат, ён па ўсяму свету шле лісты з просьбай дапамагчы Беларусі. З многімі звязваюся я сам. Дарэчы, гэта я ўпершыню звярнуў увагу Джорджа Сораса на Беларусь... Не ўсе, канешне, кідаюцца дапамагаць, але часам адгукаюцца. Спадзяюся, што яшчэ нечым змагу дапамагчы сваёй радзіме. Усё, што я рабіў у сваім жыцці, я рабіў для маёй радзімы і яе славы..."

У свой час на старонках газеты "Голас Радзімы" (а пасля — і асобным выданнем) быў надрукаваны жыццяпіс Барыса Кіта — кніга Лідзіі Савік "Вяртанне". Выданне, здзейсненае ў 1993 годзе, безумоўна, мела і свае недахопы. І гэта датычыцца зусім не таго, як была выканана праца Лідзіі Савік. Справа ў тым, што па меры знаёмства з Барысам Кітом і аўтар, і даследчаная частка беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі зразумелі: лёс славутага суайчынніка варты больш шырокай, шматграннай увагі, больш шырокага і шматпланавага асвятлення. І за выкананне гэтай задачы ўзялася сама ж Лідзія Савік, напісаўшы новую кнігу. Толькі што ў мінскім выдавецтве "Пейто" пабачыла свет выключна цікавае і патрэбнае для нашай беларускай гісторыі даследаванне "Космас беларуса: Жыццяпіс Барыса Уладзіміравіча Кіта, асветніка, вучонага, патрыёта". Даследаванне пра грамадзяніна Амерыкі, таленавітага матэматыка, фізіка, доктара філасофскіх навук, акадэміка Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі (Парыж), віцэ-прэзідэнта Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі, старэйшага сябра Амерыканскага астранаўтычнага таварыства, ганаровага сябра Брытанскага і Нямецкага міжпланетных таварыстваў, заслужанага прафесара Вашынгтонскага Мэрылендскага універсітэта, залатога медаліста нямецкага навуковага таварыства імя Германа Обэрта, ганаровага прафесара Гродзенскага універсітэта імя Янкі Купалы, ганаровага грамадзяніна горада Навагрудка... Словам, пра Барыса Кіта.

Складаецца кніга з наступных раздзелаў: "Нашчадак сялянскага роду", "Дзейнасць Барыса Кіта ў беларускім школьніцтве", "Іміграцыя і навуковая дзейнасць у ЗША", "Пераезд у Германію. Педагагічная, прафесарская дзейнасць ва універсітэтах Еўропы (з 1972 года)", "Вяртанне на Бацькаўшчыну", "Расказы Барыса Кіта", "Я — хадзячы сведка стагоддзя". Далей ідуць дадаткі, што істотна дапаўняюць працу Лідзіі Савік.

Прадмову да "Космасу беларуса" напісала Вольга Іпатава. Дарэчы, калі звярнуць увагу на бібліяграфію публікацый, прысвечаных Барысу Кіту, то ніяк нельга абмінуць выступленні ў друку якраз Вольгі Іпатавай — у часопісе "Полымя", у газетах "Культура" і "Голас Радзімы", "Добры вечар" і "Чырвоная змена". У згаданых публікацыях не толькі жаданне пазнаёміць чытача з славутым земляком, але і імкненне абудзіць, утрываліць у людзях беларускасць. Шкада, што рэдка, засяроджаныя ў мастацкіх росшуках, пісьменнікі звяртаюць увагу на завостранае, дзейснае публіцыстычнае слова.

Пранікліваю, шчырую ацэнку і кнізе Лідзіі Савік дала Вольга Іпатава ў прадмове да "Космаса беларуса": "Цяпер, калі зноў абцяжарыўся працэс вяртання імёнаў беларускіх дзеячаў эміграцыі на Радзіму, асабліва добра бачна, што ўдалося за кароткі час зрабіць гэтай мужнай жанчыне.

Сведчаннем сказанаму пра яе, сказанаму коратка, як толькі можна зрабіць у жанры прадмовы, з'яўляецца і другое, дапоўненае выданне кнігі. Яно наспела. З'явіліся новыя матэрыялы, да таго ж першае выданне рабілася хутка і паспешліва, паколькі любое выданне беларускай кнігі пачынаецца цяпер з сакраментальнага пытання: "Дзе ўзяць грошы?" Калі ж гаварыць пра першае выданне кнігі, то яно унікальнае тым, што дасюль з'яўляецца адзіным даследаваннем жыцця і дзейнасці асобнага дзеяча эміграцыі, хаця кнігі пра творчасць паэтаў, дый кнігі твораў дзеячаў культуры выдаваліся. Энтузіязм Лідзіі Сымонаўны пераадолеў многія перашкоды".

Даследаванне Лідзіі Савік вызначаецца і дакладнасцю ў адлюстраванні навуковых здабыткаў Барыса Кіта. Гэта вельмі важныя старонкі, бо многія публікацыі, змешчаныя дагэтуль у перыёдыцы, вызначаюцца агульшчынай, пераказам адной-ных надрукаванага. Лідзія Савік досыць часта — і гэта ў даным выпадку апраўдана — цытуе аўтарытэтныя ацэнкі навуковага плёну Барыса Кіта. А ён жа — аўтар першага ў гісторыі навукі падручніка аб усіх магчымых палівах для ракетных сістэм. Барыс Кіт — і аўтар кнігі "Гісторыя і сучасны стан савецкай астранаўтыкі" (разам з Фрэдэрыкам Ордвеем). І калі наш суайчыннік быў ужо ў сталым узросце, ён напісаў манаграфію (выдадзена ў 1983 годзе) пра вядомага ў свеце матэматыка Антона Зыгмунда.

Кніга Л. Савік багата ілюстравана. Фактычна "Космас беларуса" — штуршок для стварэння персанальных энцыклапедычна біяграфічных манаграфій пра знакамітых суайчыннікаў, хто і ў выгнанні здолеў дамагчыся многага ды разам з тым захаваў сваю беларускасць.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

ЦЭНТР ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ





**Цэнтр гісторыі і культуры створаны нядаўна ў пасёлку Акцябрскі Гомельскай вобласці. Па словах яго дырэктара Святланы Кавалёвай, адзін з раздзелаў цэнтра будзе прысвечаны развіццю рамёстваў у раёне.**

**НА ЗДЫМКАХ: агляд экспанатаў, прывезеных з чарговай экспедыцыі па раёну; будынак Цэнтра гісторыі і культуры ў Акцябрскім.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

ПРА НАРОДНЫ ХОР ВЁСКІ АХОНАВА

# НАТХНЕННЕ АД ЗЯМЛІ, РЭЧАК, ЛЯСОЎ

Рашэннем калегіі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь фальклорнаму калектыву вёскі Ахонава Дзятлаўскага раёна за прапаганду народнай песеннай творчасці прысвоена званне "народны".

У свой час Рыгор Шырма пісаў, што шмат мудрасці, трывогі і радасці, шчырай любові і праўды захавалася ў скарбах народнага мастацтва. Яно нарадзілася ў далёкія часы, разам з народам расло, мацнела, развівалася, перакязваючы тым самым волю і няволю многіх пакаленняў... Словы тыя ўспомніліся мне пры сустрэчы з мастацкім кіраўніком самадзейных артыстак — Надзеяй Бурак. Менавіта пра яе, чараўніцу, і пойдзе наш аповяд.

Летам 1987 года ў Маскве праходзіў агляд-конкурс народнай творчасці дзвюх рэспублік — Беларусі і Таджыкістана. Семнаццаць песень у выкананні Надзеі Бурак было запісана на плацінку ЮНЕСКА. Вясельныя, сірочыя, святочныя, беларускія народныя песні гучалі ў выкананні нашай зямлячкі са сцэны Дома літаратара ў Маскве.



Надзея Бурак — цікавы, неспакойнай душы чалавек. Да ўсяго ёй ёсць справа, кожнаму дапамагчы, кожнага падтрымаць імкнецца гэта ветлівая, з прыгожымі чорнымі, як вішні, вачыма і прыемнай усмешкай жанчына.

— Такая ўжо я з маладосці, — смяецца Надзея Іванаўна, — ніколі не магла ўседзець на месцы. І лёс мяне не абдзяліў: спазнала і гора, і нястачы, але і шмат было добрага, з многімі цікавымі людзьмі сустракалася, дзялілася сваім багаццем — народнай песняй.

— Даўно спяваеце? — пытаю я ў Надзеі Іванаўны.

— Даўно, са школьных гадоў...

Аказваецца, ужо ў старэйшых класах яе заўважылі. За мілагучны, душэўны голас нярубнлівую дзяўчыну запрасілі спяваць у царкоўным хоры. Яна ахвотна згадзілася. Шмат даводзілася працаваць, але ж як прыемна было ўсведамляць, што на вачах у людзей прыкметна расце твае выканаўчае майстэрства.

Нарадзілася і жыве Надзея Іванаўна ў Ахонаве. Яе бацька Іван Жыгала, чалавек, які вельмі любіў зямлю, працу на ёй, імкнуўся, каб дзеці (а іх у сям'і было трое) мелі хоць нейкую зачэпку, стаўшы дарослымі, марыў пакінуць кожнаму хоць невялікія надзелы зямлі. Іншага лёсу для іх не ўяўляў. Пры Польшчы ў Івана Сямёнавіча было тры з паловай гектары добрай ворнай зямлі. А прыйшоў 1939 год, і за яе давялося расплаціцца вельмі жорстка. Бацьку забралі, як кулака, і вывезлі на работы ў Комі АССР, там і згубіўся яго след.

Перад вайной у пісьмах бацька скупа паведамляў пра сябе, прасіў не высылаць пасылак з харчамі, бо ўсё роўна нічога не атрымлівае, усё забірае ахова. А для сям'і кавалак сала ці сухі сыр быў добрай падтрымкай, асабліва зімою. Пра ўсё самае жахлівае, што выпала на долю Івана Сямёнавіча, сям'я даведалася ад суседа. Ён таксама быў у тым лагеры, але выжыў і ў пяцідзесятыя гады вярнуўся дадому. Голад, гразь, цяжкая праца на лесапавале забралі тысячы і тысячы "ворагаў народа".

**НА ЗДЫМКУ: Надзея БУРАК (крайняя справа) са сваімі сяброўкамі.**

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

# НАТХНЕННЕ АД ЗЯМЛІ, РЭЧАК, ЛЯСОЎ

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

След бацькі згубіўся. Пасля вайны маці шмат пісала, прасіла што-небудзь паведаміць пра мужа. Так і не дачакалася адказу, хоць да канца сваіх дзён не губляла надзеі, усё спадзявалася, што муж вернецца.

— Да вайны ўся наша сям'я жыла пад страхам, — успамінае Надзея Іванаўна. — Мы, дзеці, адчувалі, што з намі, сіротамі, можа здарыцца нешта страшнае, непапраўнае. У хату да маці не раз заходзілі прадстаўнікі ўлады: сурова папярэджвалі, каб сям'я рыхтавалася да высылкі. Толькі ў канцы саракавых адчулі, што нас больш не будуць турбаваць. Пайшла ў школу. Некаторы час працавала піянерважатай. Спецыяльнай адукацыі, вядома, не мела, і на маё месца прыслалі дзяўчыну пасля тэхнікума. Я пайшла ў калгас ільнаводам. Неўзабаве прызначылі звеннявой.

Адразу пасля вайны стварылі жанчыны калгасны хор народнай песні. Спачатку, праўда, хадзіць прымушалі, а потым дзяўчаты прывыклі, ішлі ахвотна, з настроем. Часу ў Надзеі было нямнога. Трое малых дзяцей патрабавалі ўвагі. Ды і пакінуць іх не было на каго. Хор звычайна збіраўся ў школе, і даводзілася малых браць з сабою, садзіць за парту, займаць, каб не перашкаджалі.

Спяваць Надзея любіла. Навучылася многім песням ад бацькі, добрага знаўцы абрадаў, якога вяскоўцы празвалі Казлоўскім, ды і маці Сцепаніда Фёдараўна таксама хораша спявала. Потым Надзеі пачалі даваць сольныя партыі. Быў у яе надзвычай прыемны, ужо даволі развіты голас.

У 1958 годзе хор выступаў на першым Рэспубліканскім фестывалі ў Гродне, заняў прызавое месца. Першае выступленне на вялікай сцэне Надзея Бурак помніць па сённяшні дзень. Яна спявала вясельныя песні.

Не раз гэтую здольную спявачку запрашалі ў Мінск, запісвалі на плёнку забытую "Даліну-далінушку" і "Юр'я". У 60-я — 70-я гады, калі да беларускай культуры не было нікому справы, не лічачы сапраўдных майстроў, якія настойліва змагаліся за яе захаванне і адраджэнне, група народнай песні з Ахонава жыла і несла людзям радасць роднага слова. Плённа працуе яна і сёння. Нязменнай салісткай гэтага калектыву з'яўляецца чараўніца Надзея Бурак.

У 1990 годзе Надзея Іванаўна была госцем на свяце, прысвечаным 80-годдзю Генадзя Цітовіча. Выйшаў каляндар за 1991 год, на якім сфатаграфавана група з Ахонава. У цэнтры Надзея Бурак. Жанчыны спявалі "Юр'я". Аказалася, што абрадавыя песні гэтага веснавога народнага свята дзятлаўскія спявачкі захавалі ў першапачатковым выглядзе.

...Надзея Іванаўна дастае свой святочны касцюм, узнагароды за рупную працу, розныя фотаздымкі. Багатае на падзеі жыццё гэтай простай вясковай жанчыны. Шчаслівая яна, бо лёс падарыў ёй найлепшы скарб — талент. Ім Надзея Іванаўна магла і можа шчодра дзяліцца з людзьмі, ён дапамагае ёй жыць, заставацца маладой душою.

...Сонца схілялася над гарызонтам. Вечарэла. Ахонаўскія спявачкі збіраліся на рэпетыцыю. Надзея Іванаўна зацягнула на развітанне сваю любімую "Даліну-далінушку". І яе верная сяброўка адгукнулася чароўнай мелодыяй старадаўняй беларускай песні:

**"Ой да, даліна-далінушка,**
**Ой да, даліна шырокая,**
**Да па табе, далінушка,**
**Туман рассцілаецца,**
**На зару займаецца,**
**Да на сонца ўкрашаецца..."**

Я быў зачараваны. І так прыемна, сама сабой уплывалася тая мелодыя ў душу, што адразу пяшчотна, лагодна рабілася на сэрцы. Таленавітая артыстка спявала ўжо не для прысутных, а для самой сябе, а, можа, нават для ўсёй беларускай зямлі, для лясоў, рэчак, палёў, адкуль яна чэрпае новыя сілы, натхненне. Наваколле тут жа ажыло, засвяцілася новымі адценнямі і фарбамі. Песня ляцела ў белы свет, радавала сваёй непаўторнай чароўнасцю ўсіх добрых людзей.

Спяваюць у хоры Зінаіда Стэльмах і Валянціна Грыб, Марыя Анікевіч і Валянціна Бранкоўская. Ды хіба ўсіх пералічыш!

Здаецца, зусім нядаўна хорам захапляліся ў Мінску, дакладней, на юбілеі пісьменніка-земляка Вячаслава Адамчыка. Самы шчыры паклон пасылалі вясковым спявачкам Іван Шамякін, Ніл Гілевіч, народная артыстка Рэспублікі Беларусь Марыя Захарэвіч, іншыя вядомыя людзі.

**Іосіф ЗАЯЦ.**



Дружная сям'я ў ветэрана калгаса "Запаветы Леніна" Маларыцкага раёна Фёдара БЯГЕЗЫ (на здымку), які з 1954 года працуе тут. Жыве ён у невялікай вёсачцы Отчын, дзе загадвае фермай па гадаванню цёлак. Дапамагае яму ў гэтым жонка Кацярына Цімафееўна, якая 42 гады прарабіла ў жывёлагадоўлі, а цяпер на пенсіі. Частыя госці ў бацькоўскім доме дачка Надзея — калгасны бухгалтар і яе муж Валерый, які працуе вадзіцелем, двухгадовая ўнучка Кацюша. Вось толькі сыноў Леаніда і Генадзя няма: яны механізатары, і ў іх шмат працы ў калгасе.

Фота Рамана КАБЯКА.

## У ЦЫРКУ НОВЫ СЕЗОН



У Мінскім дзяржаўным цырку ў верасні адкрылася першая праграма сезона "Шлях мужнасці і натхнення". Гэта вялікае цыркавое прадстаўленне ў двух аддзяленнях. У першым аддзяленні гледачы змогуць убачыць майстэрства канатаходцаў і акрабатаў, камічных эксцэнтрыкаў, а таксама нумар пад назвай "Група экзатычных жывёлін". А ў другім аддзяленні на арэне — дрэсіраваныя львы і тыгры, якія працуюць пад кіраўніцтвам вядомых дрэсіроўшчыкаў Людмілы і Уладзіміра Шаўчэнкаў.

НА ЗДЫМКАХ: на манежы — дзікабраз; фрагмент нумара "Група экзатычных жывёлін" пад кіраўніцтвам народнай артысткі СССР і Украіны Людмілы ШАЎЧЭНКА.

Фота Віктара ТАЛОЧКІ.



## З НАДЗЕЯЙ ЗАВАЯВАЦЬ ПАРЫЖ

Выстава, што адбылася ў галерэі Аркадэ ў горадзе Сэнт-Эцьен у верасні гэтага года, прадставіла французам творчасць двух вядомых беларускіх мастакоў: жывапіс і габелены Вольгі Дзёмкінай і скульптуру Аляксандра Фінскага. "Хоць тэхніка іх розная, аднак крыніца натхнення агульная, — напісала ў водгуку на выставу газета "La Tribune", — натхненне накіроўваецца да душы, прымушае адчуць хісткасць чалавека ў сусвеце". Крытыкі заўважылі і адзначылі тонкасць і эмацыянальнасць габеленаў В. Дзёмкінай, якая стварае космас і сусвет, дзе рэальнае і ўяўнае зліваецца ў адзінае і нараджаецца тэма космасу ("Чорная быліна", "Дыялог зорак", "Песня вятроў" і інш.). Бронза А. Фінскага захапіла патаемнасцю, якая надзіва дакладна перадае ўтойваемыя эмоцыі чалавека ("Развітанне", "Чаканне").

Невыпадковае, прафесійнае і прызнанае майстэрства Аляксандра Фінскага. Але сімвалічна, што на французскай зямлі, якая з'яўляецца пачынальніцай майстэрства габелена, збор тканых фантазій беларускай мастачкі меў велізарны поспех. Наведвальнікі ацанілі і высокі тэхнічны ўзровень габеленаў Дзёмкінай, і пранікнёнасць гучання ў работах самых патаемных струн яе душы. "Славянскім характарам" назваў у кнізе водгукаў адзін з гледачоў меланхолію яе твораў, аздобленую надзеяй, спасылаючыся на адсутнасць такой рысы ў еўрапейскім мастацтве, дзе звыкла гучыць дзеянне.

Добра, што не перашкодзілі ўсе шматлікія складанасці, з якімі быў звязаны ад'езд выставы ў Францыю, які так доўга адкладваўся, і беларускае мастацтва зноў сцвердзіла сябе на агульнаеўрапейскім узроўні. Таму выстава працягвае свой шлях, яна запрошана і мае надзею "заваяваць" горад мастацтваў — Парыж.

**Галіна ФАТЫХАВА.**

## РЫХТУЕЦЦА ПОЎНЫ ЗБОР ТВОРАЎ ТАНКА

Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі прыступіў да падрыхтоўкі першага Поўнага збору твораў народнага паэта Беларусі Максіма Танка. У выданне мяркуецца ўключыць усе апублікаваныя вершы, паэмы, нарысы, артыкулы, выступленні, успаміны, пераклады выдатнага паэта і грамадскага дзеяча, а таксама творы, якія не ўвайшлі ў ранейшыя выданні, і яго эпісталярную спадчыну.

## ДАВЕДНІК ПРА БЕЛАРУСЬ

Упершыню выпушчаны поўны даведнік пра Беларусь на нямецкай мове. Выйшаў ён у мюнхенскім выдавецтве "С. Я. Веск", складзены Дзіркам Хольбругe і змяшчае звесткі аб гарадах, рэгіёнах, гісторыі, палітыцы, эканоміцы і культуры нашай краіны. У ім закранута і экалагічная сітуацыя на Беларусі, звязаная з Чарнобылем. Даведнік праілюстраваны картамі, табліцамі, статыстычны данымі.

У сувязі з выхадам даведніка часопіс "Deutschland" піша, што "Беларусь, краіна з багатымі культурнымі традыцыямі і вялікім эканамічным патэнцыялам, па-ранейшаму з'яўляецца адной з найменш вядомых краін Еўропы". У мэтах большага знаёмства з Беларуссю і з'явілася гэтае выданне.

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1158. Падпісана да друку 28.10.1996 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.